*Зарплаты няма і не будзе? (стар. 2)*

*Сяргей Дубавец. Электарат Лукашэнкі — што гэта і адкуль? (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

27 верасня 1996 г. № 73 Кошт свабодны

## За пакетам – пакет

*СВАБОДА атрымала другое «предупреждение». За што — няясна*


ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ПЕЧАТИ

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11 Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

220048, Минск, проспект Машерова, 11 Тел. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

19.09.96 г. № 02-08/1272

на №

Главному редактору редакции газеты "Свобода" И.Гермянчуку 220088, г.Минск, ул.Ивановская, 56

Предупреждение о нарушении Закона "О печати и других средств массовой информации"

Доводим до Вашего сведения, что в опубликованной статье "Евангилие от лукавого" в газете "Свобода" от 17.09.96 г. Александра Стариковича допущено нарушение ст.5 Закона "О печати и других средств массовой информации" в части"разжигания национальной, социальной, рассовой, религиозной нетерпимости либо розни".

Обращаю Ваше внимание на неоднократное нарушение Закона.

Первый заместитель председателя [подпіс] З.К.Пригодич

*(Рэпрэсіям супраць незалежнай прэсы прысвечаная паласа De Facto – стр.3.)*

## Вашынгтон чакае тлумачэнняў

Афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Нікалас Бэрнс, выступаючы 24 верасня на брыфінгу ў Вашынгтоне, заявіў, што Злучаныя Штаты хочуць атрымаць тлумачэнні ад прэзідэнта Беларусі, які абвінавачаў ЗША і іншыя заходнія краіны ў спробах дэстабілізаваць сітуацыю ў Беларусі. *«Мы адхіляем гэтыя абвінавачанні... Нічога падобнага не мае месца,* — сказаў прадстаўнік Дзярждэпартамента. — *Мы лічым падобныя заявы правакацыйнымі і абуральнымі...».*

*(Падрабязнасці на стар. 2)*

## Праціўнікі дыктатуры збіраюць Кангрэс

*19 кастрычніка ў Мінску пройдзе Нацыянальны кангрэс дэмакратычных сілаў у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры*

У звароце да грамадзян Беларусі, які падпісалі кіраўнікі аргкамітэта Г.Бураўкін, А.Бухвостаў, Г.Карпенка, Г.Таразевіч і Ю.Захаранка, адзначаецца, што дата Кангрэса выбраная невыпадкова: *«На гэты ж дзень прызначанае правядзенне правакацыйнага «ўсебеларускага сходу», абапіраючыся на падтрымку якога А.Лукашэнка мае намер правесці рэферэндум у тэрміны, якія супярэчаць Канстытуцыі, і пазбавіць паўнамоцтваў адзіны заканадаўчы орган — Вярхоўны Савет».*

Як паведамляецца ў звароце, *«у працы Кангрэса можа прыняць удзел любы грамадзянін Беларусі».* Ён можа быць дэлегаваны партыйнай або прафсаюзнай арганізацыяй. Беспартыйныя работнікі могуць быць выбраныя дэлегатамі ад працоўных калектываў прадпрыемстваў і арганізацый, незалежна ад формы ўласнасці і статусу. У выпісцы з пратакола сходу, якую трэба перадаць у аргкамітэт, павінна быць указана колькасць групы грамадзянаў, ад якой вылучаны дэлегат. Усе даведкі можна атрымаць па кантактным тэлефоне ў Мінску — 222-36-20.

*«Задача Кангрэса — паказаць, што ў нашай краіне ёсць сілы, гатовыя змагацца супраць дыктатуры і абараніць дэмакратыю»,* — заявіў Аляксандр Бухвостаў на прэс-канферэнцыі 24 верасня. Па ягоных словах, у Кангрэсе плануецца ўдзел каля 1.000 чалавек. У якім будынку будзе праходзіць гэты форум — пакуль не вызначана. *«Але ў выпадку, калі ўлады ўчыняць перашкоды, Кангрэс пройдзе на вуліцы»,* — запэўніў журналістаў дэпутат Бухвостаў. Ён таксама сказаў, што на форум будзе запрошаны спікер парламента С.Шарэцкі, дэпутаты ВС, абласных і раённых Саветаў, прадстаўнікі ўсіх палітычных партый і замежныя госці.

Мяркуецца, што пасля завяршэння працы Кангрэса адбудзецца шматтысячны мітынг каля Палаца спорту, дзе будзе праходзіць прэзідэнцкі «ўсебеларускі сход».

*«Сёння спыніць наступ дыктатуры могуць толькі вулічныя маніфестацыі»,* — такое меркаванне выказаў на прэс-канферэнцыі Народнага фронту адзін з ягоных кіраўнікоў Лявон Баршчэўскі. Ён падкрэсліў, што ў Беларусі дэ-факта ўжо існуе дыктатура, якую Лукашэнка намагаецца замацаваць юрыдычна пры дапамозе рэферэндуму.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Вайна ці мір?

*Паплечнікі ўгаворваюць прэзідэнта пагадзіцца на «нулявы варыянт»*

**По звестках з дасведчаных крыніцаў, у пачатку верасня А.Лукашэнка ледзь не прывёў у дзеянне сілавы механізм па роспуску парламента. Здзейсніць гэты план не дазволіла Масква.**

У начной тэлефоннай размове з беларускім прэзідэнтам расійскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін успрацівіўся ўсякім імправізацыям Лукашэнкі, якія выходзяць за межы канстытуцыйнага поля, і параіў дамагацца перамогі законнымі сродкамі. Інакш, маўляў, ізноў усплывуць пытанні аб пазыках, якіх за мінулы год набегла некалькі сотняў мільёнаў долараў. А пасля могуць пачацца і перабоі ў забеспячэнні энерганосьбітамі. Чарнамырдзін не Бог, ён не ў стане бясконца прымушаць незалежныя ад дзяржавы нафтавыя і газавыя канцэрны задарма карміць Беларусь. Тым больш калі яна сябе паводзіць нецывілізавана...

Аргументы падзейнічалі, і загад аб перавядзенні ўнутраных войскаў у стан баявой гатоўнасці давялося адмяніць. Гэтак жа, як і загад Рыгору Кісялю рыхтаваць тэлестудыю для прамога звароту прэзідэнта да насельніцтва. Ні 2, ні 3 верасня Лукашэнка ў прамы эфір не выйшаў. У наступныя дні, калі парламент вагаўся, прапаноўваць ці не прапаноўваць прэзідэнту «нулявы варыянт», і калі можна было расправіцца з ім адным росчыркам пяра — Лукашэнка на рашучыя дзеянні таксама не адважыўся. «Яны вельмі хацелі, каб я іх распусціў, але не дачакаюцца», — адзінае, што пачулі ад прэзідэнта дэпутаты. У гэтай сувязі цяжка не ўзгадаць анекдот пра старога габрэя, які словамі «не дачакаецеся» адказваў на шчырыя пытанні аб здароўі. Ці не атрымліваецца, што сам прэзідэнт адчуў сімптомы нейкай палітычнай хваробы?

У палітыцы, праўда, галоўнае не тое, як ты сябе адчуваеш, а як цябе ацэньваюць сапернікі. І яшчэ істотней — паплечнікі. Мяркуючы па апошніх звестках, у лагеры шматлікіх саюзнікаў Лукашэнкі ўсё больш тых, у каго ёсць вялікія сумненні ў здольнасці шэфа атрымаць новую перамогу. Папершае, прагматычныя палітыкі не бачаць шанцаў, каб 50% выбаршчыкаў прагаласавала за прэзідэнцкую канстытуцыю. Не грамадзянаў, **якія прыйдуць** на выбары, а тых, што **былі занесеныя ў спісы** выбаршчыкаў. Такіх галасоў трэба сабраць тры з паловай мільёны, што нерэальна. Яўцы на рэферэндум маглі б дапамагчы выбары ў парламент (што ўжо спрацавала ў мінулым годзе), але Лукашэнка ўпарта не хоча адмовіцца ад ідэі праводзіць свой плебісцыт 7 лістапада. Дзень перамогі кастрычніцкай рэвалюцыі прэзідэнт марыць пераўтварыць у свой трыумф, не звяртаючы ўвагі на відавочны факт: наколькі гэтая дата спрыяе актыўнасці людзей старэйшага ўзросту, настолькі ж яна выклікае непрыняцце ў моладзі. Але нават калі перамога нейкім фантастычным чынам і будзе атрыманая, забяспечыць яе законнасць, легітымнасць — немагчыма.

У гэтых умовах, як сцвярджаюць крыніцы з адміністрацыі, прэзідэнту бачыцца адзінае выйсце: правесці так званы ўсебеларускі сход і «дапамагчы» яму абвясціць сябе адзіным прадстаўнічым органам замест парламента. Гэты «орган» і павінен прызначыць рэферэндум на 7 лістапада. Па звестках, гэта плануецца зрабіць ужо 20 кастрычніка, на другі дзень пасля склікання сходу. Што будзе далей?

Калі мець на ўвазе, што апазіцыйныя сілы адкажуць на «ўсебеларускі сход» сваім шматтысячным мітынгам, то не выключаныя сутычкі, разгоны і правакацыі, якія ўжо зведаў Мінск сёлетняй вясной. Канстытуцыйны пераварот можа ўвогуле прывесці да барыкадаў. Падзеі пачнуць развівацца ў той бок, дзе перамога не чакае нікога. Ні сілавікоў, якім давядзецца аддаваць злачынныя загады, ні палітыкаў, якія выведуць на вуліцы дэманстрацыі пратэсту.

Як быць тым, хто сапраўды клапоціцца аб стабільнасці? Цвярозыя палітыкі ў акружэнні прэзідэнта ламаюць галаву, як пераканаць Лукашэнку, каб ён пагадзіўся на «нулявы варыянт». Пачаліся таксама сустрэчы і кансультацыі пры зачыненых дзвярах паміж найбольш уплывовымі асобамі з адміністрацыі прэзідэнта і кіраўніцтвам парламента. Шукаецца паразуменне — пакуль яно яшчэ магчымае. Але нават бліжэйшыя да прэзідэнта людзі вымушаныя прызнаць, што ніяк пакуль не могуць пераканаць Лукашэнку ў неабходнасці пайсці на «міравую» з парламентам. Упартасць прэзідэнта, якая ім раней так падабалася, сёння працуе супраць іхніх планаў. Па звестках, якія маюцца на чацвер, прэзідэнт на «міравую» пакуль не згаджаецца.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## «Згода» губляе кадры

**Пяць дэпутатаў ВС — Сямён Домаш, Васіль Скок, Рыгор Пракаповіч, Уладзімір Савічаў, Віктар Цярэшчанка — падалі заяву на імя старшыні Вярхоўнага Савета аб сваім выхадзе з фракцыі «Згода» «у мэтах правядзення сапраўднай цэнтрысцкай палітыкі».**

Каментуючы карэспандэнту СВАБОДЫ матывы гэтага кроку, Сямён Домаш патлумачыў, што «Згода» не выканала сваёй задачы стаць цэнтрысцкай фракцыяй. Канчатковае рашэнне пакінуць гэтае прапрэзідэнцкае аб'яднанне дэпутаты прынялі пасля галасаванняў падчас прыняцці звароту аб «нулявым варыянце». Па перакананні Домаша, кіраўніцтва фракцыі стала на непрымірымыя пазіцыі, якія вядуць грамадства да расколу.

Акрамя таго, вядома, што ў апошні час у «Згодзе» пачалі дзяліць дэпутатаў на «чыстых» і «нячыстых», а калі дакладней — на «верных» і «няверных». Тых парламентарыяў, якія ў чым-небудзь не пагаджаліся з генеральнай лініяй фракцыі, сталі ігнараваць пры прыняцці некаторых рашэнняў, не запрашаць на паседжанні фракцыі.

Пяцёра «раскольнікаў» вырашылі не далучацца ні да адной існуючай фракцыі. *«Маёй мэтай з'яўляецца прыцягнуць тых дэпутатаў, што яшчэ канчаткова не вызначыліся ў сваіх пазіцыях, у аб'яднанне, якое зойме сапраўды цэнтрысцкую пазіцыю,* — заявіў С.Домаш. — *Яно будзе падтрымліваць разумныя прапановы, ад каго б яны ні зыходзілі, і адмаўляць ідэі, якія могуць пагоршыць сітуацыю ў краіне. Часам трэба мець мужнасць пераступаць праз свае прафесійныя, групавыя ці іншыя інтарэсы».*

Варта адзначыць, што прапрэзідэнцкую фракцыю пакінулі вельмі ўплывовыя і аўтарытэтныя дэпутаты. Сямён Домаш з'яўляецца членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Рыгор Пракаповіч — старшыня камісіі па заканадаўстве, Уладзімір Савічаў — старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве і мясцовым самакіраванні, Віктар Цярэшчанка — даволі прыкметны і актыўны палітык. Паказальным з'яўляецца і прафесійная прыналежнасць членаў «пяцёркі»: пракурор Пракаповіч, суддзя Скок, генерал Савічаў, бізнесмен Цярэшчанка, былы старшыня Гродзенскага аблсавета Домаш.

Відавочна, у Вярхоўным Савеце адбываецца пэўная перагрупіроўка, «пераацэнка каштоўнасцяў». «Згода», якую калісьці называлі самай масавай фракцыяй, губляе лепшых прадстаўнікоў і фактычна не можа правесці ніводнага свайго рашэння. Неўзабаве рэшткі фракцыі смела можна будзе перайменоўваць у «вертыкаль».

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Падайце «нішчаму» на рэферэндум

**У аўторак, 24 верасня, на сесіі Вярхоўнага Савета чарговую сенсацыйную заяву зрабіў старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар.**

Як вядома, у дзяржаўнай прэсе было апублікаванае паведамленне аб адкрыцці гэтак званага спецыяльнага рахунку «Рэферэндум-96». *«Гэтага рахунку няма, у сувязі з чым паведамленне сродкаў масавай інфармацыі з'яўляюцца прамым падманам насельніцтва і адкрытай дэзінфармацыяй»,* — заявіў старшыня ЦВК.

Ганчар зачытаў вытрымку з ліста старшыні Нацбанка Тамары Віннікавай, якая ў адказ на запыт Цэнтрвыбаркама паведаміла, што міністэрства фінансаў не звярталася ў Нацыянальны банк наконт адкрыцця спецыяльнага рахунку. Рахунак, нумар якога паведамляецца ў прэсе, называецца «даходы рэспубліканскага бюджэтуч» і быў адкрыты міністэрству фінансаў у Нацбанку з 1 студзеня г.г. Як падкрэсліў Ганчар, фактычна так званыя добраахвотныя сродкі залічваюцца на даходныя артыкулы бюджэту. На сённяшні дзень туды пералічана больш за 1,5 мільярда рублёў. Нагадаем, што паводле заканадаўства ўсе сродкі на рэферэндум могуць залічвацца толькі на рахунак Цэнтральнай выбарчай камісіі.

Старшыня ЦВК прапанаваў парламенту неадкладна заслухаць паведамленне Генеральнага пракурора аб выкананні заканадаўства па выбарах і правядзенні рэферендуму. Цэнтральная выбарчая камісія ўжо накіравала дакументы ў пракуратуру на мінскага мэра Ярмошына наконт «прамых перашкодаў дзейнасці камісій». *«Я прашу Вярхоўны Савет спыніць гэтую нацыянальную ганьбу!»* — заклікаў Ганчар.

Па ўсім відаць, Лукашэнка прыдумаў някепскі спосаб коштам няшчасных «добраахвотнікаў» папоўніць дзяржаўную казну (якую ён нездарма называе «сваёй»). А куды грошы пойдуць — хто ж там пасля рэферэндуму разбіраць будзе...

**Алесь ГАНКОВІЧ**

*P.S. Увечары таго ж дня ў тэлевізійнай праграме «Панарама» прадстаўнік міністэрства фінансаў пацвердзіў, што «добраахвотныя» ахвяраванні на рэферэндум сапраўды паступаюць у бюджэт.*

## Радуйся, Масква!

**Беларускі прэзідэнт знайшоў арыгінальны спосаб, каб нагадаць пра сябе ў Маскве.**

Да 60-гадовага юбілею мэра Масквы Ю.Лужкова ён прымеркаваў царскі падарунак — тралейбус з рэкламным надпісам «Москвичам от президента Беларуси Александра Лукашенко».

**Б.П.**

СВАБОДА
27 верасня 1996 г., № 73

СКАНДАЛ

# Падслухаў, але не падумаў

*Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 21 верасня на маладзёжным форуме «Моладзь Беларусі — за стабільнасць і прагрэс», выказаў шэраг абвінавачанняў у адрас надзвычайных і паўнамоцных паслоў вядучых заходніх краінаў*

Лукашэнка заявіў: «11 верасня ў беларускай сталіцы збіраюцца сем альбо восем паслоў, якія прадстаўляюць дзяржавы *NATO*. Пра што там ішла гутарка?

Першае. Прынізіць беларускага прэзідэнта, у процівагу падтрымаць асобных дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Другое. Ні ў якім выпадку не ісці з Лукашэнкам на кантакты напярэдадні рэферэндуму, каб такім чынам не ўзвысіць яго ролю і аўтарытэт.

Трэцяе. Накіраваць — гэта прапанова пасла Злучаных Штатаў Амерыкі — у беларускую сталіцу групу амерыканскіх спецыялістаў, якія падрыхтуюць даклад, магчыма, для Кангрэса, аб парушэнні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Ну, з гэтай фармулёўкі што вынікае, вы ведаеце, ведаеце, які даклад будзе падрыхтаваны.

Чацвёртае. Правесці ў Рэспубліцы Беларусь шэраг сустрэч і канферэнцый антыпрэзідэнцкага характару. Нядаўна *PEN*-клуб сабраўся. Вы, напэўна, чулі, і ў выніку прэміі там былі ўручаны па прапанове Васіля Быкава галоўнаму рэдактару (я яе заўсёды бульварнай газетай называў і, выбачайце мне, сёння назаву) СВАБОДЫ, як быццам у нас няма іншых газет і няма больш таленавітых журналістаў.

Пятае. Запрасіць з ліку беларускіх журналістаў, незалежных журналістаў, на Захад, у Злучаныя Штаты Амерыкі, таксама Джэсіка Пірс, Пасол Вялікабрытаніі, прапанавала і ў Вялікабрытанію шэраг незалежных журналістаў, для таго, каб правесці там з імі адпаведную работу.

Скажыце, калі ласка, як я як кіраўнік дзяржавы павінен рэагаваць на падобныя рэчы? Гэта што, незалежнасць? Гэта што, прыстойна сёння арудаваць на тэрыторыі Беларусі і ўказваць, як нам жыць? Тут ёсць сваё кіраўніцтва. І мы самі будзем вызначаць і вырашаць лёс нашага народа. Гэта не падабаецца ні на Захадзе, ні на Усходзе. Сёння прэзідэнт Беларусі з-за сваёй прыстойнай пазіцыі трапіў паміж молатам і кавадлам. Кавадла — Захад, молат — гэта пэўныя сілы ў Расіі».

*БелаПАН*

## Заява Амбасады ЗША

Сапраўды, сустрэча Паслоў краін *NATO* адбылася 11 верасня. Кіраўнікі дыпламатычных місій у сталіцах па ўсім свеце праводзяць рэгулярныя сустрэчы для абмену думкамі. Сустрэча, пра якую ідзе гаворка, адбылася ў Пасольстве Вялікабрытаніі, і на ёй не прысутнічалі грамадзяне Беларусі. Мы звярнуліся ў міністэрства замежных справаў з афіцыйнай просьбай растлумачыць нам, на якой падставе прэзідэнт ахарактарызаваў па нацыянальным тэлебачанні сустрэчу, якая праходзіла пры зачыненых дзвярах. Мы адхіляем абвінавачанні, якія ўтрымліваюцца ў гэтых заявах: яны абсалютна беспадстаўныя.

## Заява для прэсы Пасла Вялікабрытаніі Джэсікі Пірс

Паслы краін *NATO* ў Мінску рэгулярна сустракаюцца з мэтай абмеркавання пытанняў, якія прадстаўляюць для іх агульны інтарэс. 11 верасня ў пасольстве Вялікабрытаніі адбылася апошняя такая сустрэча. Гэтыя сустрэчы носяць прыватны характар.

Мы просім у беларускага ўрада тлумачэнняў з нагоды абвінавачванняў прэзідэнта, а таксама на якой падставе яны маглі ўзнікнуць.

## Ганчар прадставіў дэкларацыю аб даходах

**Старшыня ЦВК Віктар Ганчар стрымаў дадзенае пры абранні на гэтую пасаду слова і прадставіў у Вярхоўны Савет дэкларацыю аб даходах.**

У якасці крыніцы даходаў В.Ганчар указаў заробак Генеральнага сакратара Эканамічнага суда СНД. Агульная сума заробку за 1995 год склала 19.379.168 расійскіх рублёў, а заробак за студзень—жнівень 1996 года — 21.752.462 руб. Ва ўласнасці старшыні Цэнтрвыбаркама маецца прыватызаваная кватэра ў панельным доме агульнай плошчай 63,4 кв.м. Дачных і жылых дамоў, зямельных участкаў, асабістага аўтамабіля і рахункаў у банках не мае.

Адначасова В.Ганчар падаў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі С.Багданкевічу заяву аб прыпыненні свайго членства ў АГП, у палітсавеце і Нацыянальным камітэце партыі на перыяд выканання абавязкаў старшыні Цэнтрвыбаркама.

**Юрась ДУБІНА**, *БелаПАН*

## У Магілёве сабатуюць выбары

**Магілёўская гарадская выбарчая камісія вынайшла прычыну, каб не праводзіць выбары ў гарсавет.**

Спаслаўшыся на тое, што ў некаторых месцах трэба «перавызначыць межы выбарчых акругаў», выбаркам фактычна адмяніў рашэнне парламента і Цэнтральнай выбарчай камісіі аб выбарах 24 лістапада.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## «Хімвалакно» на сход не пойдзе

**Прафсаюзная арганізацыя буйнейшага магілёўскага аб'яднання «Хімвалакно» вырашыла не ўдзельнічаць у падрыхтоўцы да прэзідэнцкага «ўсебеларускага сходу».**

Гэтае рашэнне матывуецца тым, што сход залішне палітызаваны, а прафсаюзы, маўляў, павінны быць па-за палітыкай. На сённяшні дзень у прафсаюзнай арганізацыі аб'яднання больш за 15 тысяч чалавек.

**Іван ЗАСАДА**

## Інвалідаў пакідаюць без колаў

**Выканаўчыя ўлады зрабілі чарговы «падарунак» беларускім інвалідам, якія карыстаюцца спецаўтатранспартам.**

Днямі органы сацыяльнага забеспячэння на месцах атрымалі з Кабінета міністраў прадпісанне. Гэты дакумент забараняе выдаваць мэтавую грашовую кампенсацыю інвалідам на ўтрыманне аўтамабіляў (бензін, запчасткі і інш.), калі тыя не пройдуць тэхнічны агляд. Інакш кажучы, гэтых людзей паставілі ў безвыходнае становішча. Рэч у тым, што менавіта за кошт сацыяльнай дапамогі, якая складае 250—560 тыс. рублёў, інваліды і прыводзілі свае аўто ў больш-менш належны тэхнічны выгляд. Цяпер іх пазбавілі і гэтага.

**Уладзімір СУПРАНЁНАК**

## Першы каталіцкі Сінод

**У гэтую суботу ў Мінскім катэдральным саборы адбудзецца афіцыйнае адкрыццё першага епархіяльнага Сіноду каталіцкай царквы Беларусі, які будзе дзейнічаць на працягу амаль двух гадоў.**

У нашай краіне каталіцкі Сінод праводзіўся толькі аднойчы — у 1929 годзе, на тэрыторыі Пінскай епархіі, а ў Мінска-Магілёўскай архіепархіі склікаецца ўпершыню.

На цяперашнім Сінодзе каталіцкая царква выпрацуе свой мясцовы статут і заканадаўства. На пленарныя сесіі выносіцца каля дванаццаці тэмаў, сярод якіх: узаемаадносіны з іншымі канфесіямі, праблемы сям'і і моладзі, навучанне ў семінарыі і інш. На думку кардынала Казіміра Свёнтэка, *«Сінод павінен ажывіць веру людзей, іх хрысціянскую актыўнасць, дапамагчы вернікам лепш зразумець Евангелле, наблізіць яго да жыцця»*.

Кардынал Свёнтэк спадзяецца, што ў дзяржавы *«не будзе ніякіх прэтэнзій да праваздення Сінода»*, які *«не будзе ўяўляць якой-небудзь пагрозы для праваслаўнай царквы»*. Кардынал падкрэсліў, што Сінод будзе мець адкрыты характар.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Прагноз міністра

Міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў на адной з сустрэч у Магілёве заявіў: *«Калі мы пусцім зямлю як тавар, то праз 3—5 год яна апынецца за межамі Беларусі...»*. Як кажуць, каментарыі непатрэбныя.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Грошай няма. І не будзе?

**Затрымка заработнай платы стала даволі распаўсюджанай з'явай, зрэшты, як і масавыя выступленні рабочых з гэтай нагоды.**

Большая частка запазычанасці па зарплаце прыходзіцца на калгасы і саўгасы (больш за 50% ад агульнай сумы), тым часам як доля прамысловасці складае прыкладна 30%. Такая няроўнасць тлумачыцца нічым іншым, як меншай ступенню палітычнай актыўнасці калгаснікаў.

Аднак і ў прамысловасці выкарыстанне банкаўскіх крэдытаў не палепшыла сітуацыю, а прывяло толькі да павелічэння даўгоў прадпрыемстваў перад банкамі, а таксама спрыяла актыўнаму росту курса долара. Тое, што цяпер долар каштуе амаль 20.000 рублёў, у многім тлумачыцца менавіта пагашэннем даўгоў па заработнай плаце за кошт банкаўскіх крэдытаў.

Прадстаўнікі вертыкалі пастаянна паведамляюць аб правядзенні імі актыўнай работы па пагашэнні запазычанасці. А намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Пётр Пракаповіч нават заявіў, што да 20 кастрычніка запазычанасць па зарплаце будзе поўнасцю зліквідавана.

Тым не менш 1996 год набліжаецца да канца, і, нягледзячы на ўсе намаганні ўладаў, запазычанасць захоўваецца на ўзроўні студзеня — у памеры каля 1 трлн. беларускіх рублёў. Існуючы рэжым аказаўся не ў стане палепшыць сітуацыю, і, хутчэй за ўсё, чарговыя абяцанні застануцца нявыкананымі.

Тым не менш, верагоднасць таго, што даўгі будуць пагашаныя, усё ж існуе — гэта можа здарыцца за кошт друкавання дадатковай колькасці грошай.



*У чаканні бацькавай зарплаты.*

Ці будзе гэта выйсцем для рабочых? Падобная тактыка выкліча толькі рэзкі рост курса долара і інфляцыі, а за ім не мінаваць яшчэ большага падзення ўзроўня жыцця. Ёсць яшчэ адзін варыянт: у мэтах папярэджання масавых выступленняў рабочых даўгі можна выплочваць за кошт росту запазычанасці калгаснікам (паколькі яны значна больш пасіўныя ў палітыцы). Магчыма, так і будзе.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Чыгір быў не «з пустымі рукамі»

У рэпартажы аб адкрыцці першай у Беларусі польскай школы, які быў апублікаваны ў мінулым нумары СВАБОДЫ (24 верасня), я са здзіўленнем прачытаў, што на ўрачыстасць у Гродна (цытую) *«Міхаіл Чыгір прыехаў з пустымі рукамі»*. Ваш карэспандэнт паведаміў недакладную інфармацыю. Прэм'ер-міністр М.Чыгір падарыў польскай школе выдатнае жывапіснае палатно беларускага мастака Уладзіміра Масленікава і бібліятэку беларускай літаратуры.

Спадзяюся, Вашым чытачам будзе цікава даведацца, што наш прэм'ер-міністр зрабіў таксама падарункі беларускім школьнікам у Польшчы. Падчас наведвання беларускай школы ў вёсцы Кляшчэлі Беластоцкага ваяводства Міхаіл Чыгір падараваў персанальны камп'ютар і бібліятэку (больш за тысячу кніг) беларускай літаратуры.

**Дзмітрый МАЛІНОЎСКІ,**
*прэс-сакратар прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.*

**Ад рэдакцыі.** *Прыносім прабачэнне прэм'ер-міністру і чытачам СВАБОДЫ за памылку нашага гродзенскага карэспандэнта. Недакладнасць узнікла з-за таго, што Міхаіл Чыгір праявіў залішнюю сціпласць і на ўрачыстым адкрыцці польскай школы ні слова не сказаў пра свой падарунак, тым часам як іншыя госці паведамілі публіцы пра свае прэзенты.*

Семён БУКЧИН

*Исторические этюды на современную тему*

# Месье Бональд и господин Пригодич

Французский философ и публицист Луи Бональд, чья бурная общественная деятельность пришлась на конец XVIII и первую половину XIX вв., утверждал: *«Государство может быть приведено в смятение вследствие того, что говорят журналы, но оно может погибнуть вследствие того, что они молчат»*. Под журналами, согласно традиции того времени, понималась пресса вообще и еще шире — свобода слова.

Господин Зиновий Пригодич, первый заместитель председателя Государственного комитета Республики Беларусь по печати, придерживается иного мнения, о чем свидетельствует его письмо в редакцию СВАБОДЫ от 19 сентября:

*«Доводим до Вашего сведения,* — сообщает З.К.Пригодич главному редактору И.Герменчуку, — *что в опубликованной статье «Евангилие от лукавого» в газете «Свабода» от 17.09.96 г. Александра Старикевича допущено нарушение ст.5 Закона «О печати и других средств массовой информации» в части «разжигания национальной, социальной, рассовой, религиозной нетерпимости либо розни». Обращаю Ваше внимание на неоднократное нарушение Закона».*

В семи строчках две грубейшие орфографические ошибки. Оказывается, в «министерстве грамотности» не знают, как правильно пишется слово «Евангелие». А слово «расовая» там почему-то пишут через два «с» — видимо, полагая, что это усиливает факт очередного «нарушения Закона». При такой орфографии что уж обсуждать канцелярскую нелепость и корявость стиля этого послания.

Разумеется, можно быть не столь придирчивым. Ну, не обладает замминистра Пригодич изысканностью стиля месье де Бональда, о выдающейся личности которого сообщают крупнейшие энциклопедии мира. Но ведь и господин Пригодич непростая фигура. Тоже писатель, и сведения о нем имеются, к примеру, в справочнике «Беларускія пісьменнікі».

Что касается творческих достижений, то известно, что в 1796 г. Луи Бональд издал самое главное свое сочинение «Теория политической и религиозной власти». Спустя почти два столетия Зиновий Пригодич выпустил несколько менее известные труды — книгу публицистики «На палях рэспублікі» (1968 г.) и документальную повесть «Крылы дужэюць у палёце» (1977 г.). Впрочем, как и у Бональда, у него имеется множество и других сочинений.

Если говорить о политических взглядах обеих фигур, то здесь, на первый взгляд, очевидно сближение. Бональд был яростным противником революционной Франции и даже одно время состоял в войсках принца Конде. А уж как доставалось от него Вольтеру, Руссо и другим просветителям, которых он считал главнейшими врагами абсолютизма, подорвавшими устои французской монархии! Господина Пригодича тоже вроде нельзя отнести к либералам. Как сообщает тот же белорусский писательский справочник, Зиновий Кириллович был инструктором отдела культуры, помощником секретаря ЦК КПБ, заместителем заведующего идеологическим отделом ЦК КПБ, главным редактором газеты «Советская Белоруссия»... Тоже своего рода войска принца Конде. Идеологические, разумеется.

Наибольшую известность Бональд приобрел после реставрации Бурбонов. Он стал членом Палаты депутатов, его избрали членом Французской академии и, наконец, назначили пэром.

Г-н Пригодич хорошо жил при прежнем режиме, нормально живет и при нынешнем. Тогда — помощник и замзав. Нынче — замминистра. Во всяком случае, ему не пришлось эмигрировать, подобно Бональду после поражения роялистов. Правда, сочинения, которые теперь выпускает г-н Пригодич, называются несколько суше — «Предупреждение о нарушении Закона «О печати и других средств[ах] массовой информации».

Другая эпоха. Крылы ўжо не дужэюць у палёце. Да и не крылья нынче требуются, а острый клюв. Чтобы долбать и долбать.

Но ведь и Бональд долбал! И еще как! Так почему же о нем помнят так долго и даже находят в его работах нечто достойное для цитирования сегодня? А у господина Пригодича если и найдешь что оригинальное, так это только будет или «евангилие» или «рассовая».

Почему, в самом деле, так получилось, что неистовый защитник французской монархии и противник конституционно-парламентского строя оказался горячим сторонником полной свободы прессы, а сочинитель идиллически трогательной книжечки под названием «Жменя зярнят» рассылает нынче только безграмотные «предупреждения»? Идет, так сказать, совсем другая жменя...

Одни скажут: что вы сравниваете?

Другие скажут: дело в культуре.

Третьи — еще что-то правильное.

И все будут правы.

Но мне почему-то кажется, что в здание сегодняшней демократической Франции свои кирпичи заложил и «реакционер», а точнее говоря традиционалист Бональд, считавший, что государство может погибнуть, если *журналы будут молчать.*

Какую будущую Беларусь строит своей «жменей» предупреждений бывший вечный зам г-н Пригодич?

Ответ может быть только один.

Страну, в литературе которой самым популярным жанром после «жмень» может стать «Дневник тюремного надзирателя».

## РАДЫЁПРЫЗНАННЕ

**Выступаючы на форуме «Моладзь Беларусі — за стабільнасць і прагрэс» 20 верасня, Аляксандр Лукашэнка растлумачыў прычыну закрыцця недзяржаўнай радыёстанцыі Радыё 101.2.**

**Прэзідэнт заявіў: *«Скажу абсалютна шчыра... Ні 101.2, ні іншым антыдзяржаўную палітыку праводзіць на дзяржаўнай хвалі за дзяржаўныя грошы дазволена не будзе. Хочаце мець маладзёжны канал — бярыце. Але пад вашую адказнасць... Я аддам вам гэтую хвалю»*. Трэба нагадаць, што дагэтуль афіцыйнай прычынай закрыцця Радыё 101.2 назваліся тэхнічныя памехі для спецсувязі «Алтай». Аднак А.Лукашэнка ўсё паставіў на свае месцы: перашкаджала «антыдзяржаўная палітыка».**

**Радыёчастоты ў Беларусі, як і ў большасці краінаў свету, сапраўды належаць дзяржаве. Але заява наконт «дзяржаўных грошай» — суцэльная хлусня. Радыё 101.2 існавала за кошт гранту, выдзеленага Фондам Сораса на набыццё апаратуры, а таксама ўласнай камерцыйнай дзейнасці. Радыё 101.2 на гэтыя грошы набыло радыётрансляцыйнае абсталяванне і ў адпаведнасці з законам перадало яго на баланс дзяржавы. Штомесяц радыёстанцыя плаціла каля 2 тыс. долараў за арэнду хвалі. Так што сітуацыя выглядае зусім наадварот: радыё прынесла дзяржаве немалыя грошы — а дзяржава яго прыкрыла.**



## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «Пагоні» прад'яўляюць ідэалагічныя абвінавачанні

*Рэдактар газеты «Пагоня» Мікола Маркевіч атрымаў позву ў суд у якасці адказчыка*

Працэс, які ўлада прагне распачаць супраць газеты, яе рэдактар лічыць *«наступам на адно з асноўных правоў чалавека — на свабоду слова. Іхняя мэта,* — гаворыць сп.Маркевіч, — *усталяваць у цэнтры Еўропы найгоршы варыянт таталітарнага рэжыму, пры якім не можа быць нават намёку на іншадумства».*

Выстаўленыя Дзяржкамдрукам супраць газеты абвінавачанні Мікола Маркевіч назваў чыста палітычнай акцыяй. Сапраўды, рэдакцыя абвінавачваецца, напрыклад, у публікацыі артыкула «Беларускі генерал — антыкамуніст». У ім апавядаецца пра Дзмітрыя Касмовіча, які ў час апошняй вайны кіраваў беларускай самааховай. Аўтар публікацыі назваў ***савецкіх*** партызанаў бандытамі. Вядома, што савецкія аўтары называлі бандытамі ***беларускіх*** партызанаў. Ніхто ў суд на іх не падаваў. Карацей, разыходжанні ацэначнага характару, прычым чыста ідэалагічнага.

Станоўча характарызуючы генерала Касмовіча, аўтар зыходзіў з таго факту, што бальшавіцкую акупацыю Беларусі, якая пачалася ў 1920 годзе, змяніла акупацыя нямецкая. Аднак калі за Саветамі любыя прыкметы беларускага свабодалюбства жорстка вынішчалі, то за немцамі, як лічыць аўтар публікацыі, паявіліся некаторыя магчымасці для адраджэння нацыянальнага жыцця, у тым ліку школьнага, царкоўнага і нават вайсковага. Таму аўтар і называе людзей накшталт Касмовіча «героямі».

Гродзенскія ветэраны, на ліст якіх спасылаецца ў іскавай заяве да «Пагоні» кіраўніцтва Дзяржкамдруку, дакладна ведалі, як ударыць па газеце. Перш за ўсё яны паскардзіліся У.Бельскаму на тое, што на яе старонках сістэматычна публікуюцца матэрыялы, *«порочащие честь и достоинство президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко»*. Як жа было не адгукнуцца на слёзную просьбу ветэранаў, тым больш што копіі ўсіх сваіх пасланняў яны абавязкова дасылаюць у прэзідэнцкую адміністрацыю! У ветэранскай заяве гучаць яўна пракурорскія абвінавачанні «Пагоні» за тое, што ў ёй *«негативно преподносится проводимая внутренняя и внешняя политика правительства, президента, президентской вертикали»*. Праўда, у адказ гродзенская гарадская арганізацыя дэмакратычнага аб'яднання «Ветэран» асудзіла такія напады на незалежную прэсу і журналістаў. Члены гэтай ветэранскай арганізацыі, наадварот, падтрымліваюць «Пагоню» за яе *«заклік да волі і нецярпімасць да дыктатуры»*.

Але, як той казаў, працэс пайшоў. Дзяржкамдрук заклікае Ленінскі раённы суд г.Гродна *«спыніць дзейнасць газеты «Пагоня»*. Мікола Маркевіч перакананы, што абвінавачанні супраць газеты высмактаныя з пальца, надуманыя. Іскавая заява складзеная ўвогуле дастаткова непрафесійна. Гэта, на ягоную думку, можа сведчыць аб тым, што прысуд «Пагоні» будзе сфармуляваны і прыняты не ў зале суда, а сам судовы працэс можа стаць чыстай фармальнасцю. *«Усё будзе вызначаць не закон, а цяперашняя палітычная кан'юнктура, масавы псіхоз, які апанаваў сёння ўсіх чыноўнікаў»*, — лічыць рэдактар «Пагоні».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## КАДРЫ

# «Дом Праўды»




# Прэзідэнт на чале ўсіх газет

**Прэзідэнт Туркменістана Сапармурад Ніязаў абвясціў, што ён асабіста становіцца заснавальнікам усіх агульнанацыянальных газет у краіне.**

Як паведамляецца ў афіцыйнай заяве, гэта дасць магчымасць *«праводзіць больш мэтанакіраваную і скаардынаваную палітыку ў сферы масавай інфармацыі, а таксама дапаможа выхоўваць грамадзян незалежнага Туркменістана ў духу патрыятызму і адказнасці за лёс айчыны»*.

Прыклад варты пераймання, ці не праўда?

**Г.В.**

Вадим КАЗНАЧЕЕВ

# Сашку на царство!



Слово «диктатура» в нынешнем политическом контексте повторяется прямо-таки рефреном. О надвигающейся диктатуре, нередко с эпитетом «фашистская», неустанно повторяют представители почти всех политических сил страны. Со своей стороны, президент и его окружение рьяно твердят, что никакой фашистской диктатуры в лукашенковском проекте конституции не предусматривается. Правда, уже сам факт обсуждения наличия фашистских тенденций является достаточно симптоматичным.

И все же давайте не будем безоглядно верить ни президенту, ни его оппонентам, а заглянем в сам проект. В рамках газетной статьи глубокий правовой анализ невозможен, да, собственно, и не нужен — ведь и авторы проекта не рассчитывают на то, что такой анализ проведет каждый избиратель. Они рассчитывают как раз на противоположное — что толком проект никто читать не будет. Посмотрим же, к чему по существу сводится лукашенковский проект.

### Царь, бог и воинский начальник

Основой существования любого демократического государства является разделение властей, система сдержек и противовесов, не позволяющая ни одной из ветвей узурпировать власть полностью. Настолько широких полномочий, как у белорусского президента, нет ни у одного его европейского коллеги. Даже по нашей нынешней Конституции законодательная власть по сравнению с президентом занимает достаточно скромное положение. И хотя Лукашенко не больно-то считается с Верховным Советом и Конституционным судом, но все-таки в определенной степени эти органы работают как сдержки и противовесы. В президентском же проекте никаких сдержек и противовесов нет и в помине.

Именно в принципе разделения властей заложено отличие президента любого демократического государства от монарха-самодержца. Все происходит в соответствии с названиями ветвей власти: законодательная ветвь (парламент) издает законы, исполнительная (правительство) обеспечивает их исполнение.

В странах с сильной президентской властью эта самая сила заключается в том, что президент возглавляет исполнительную ветвь. Если же он является просто главой государства, то его функции — чисто представительские, за исключением права в кризисной ситуации распустить парламент. «Сильному» президенту такой функции никогда не предоставляют во избежание диктатуры.

В лукашенковском проекте придумано хитрее. При том, что фактически возглавляет исполнительную власть именно президент (назначает и освобождает от должности членов правительства, председательствует на его заседаниях, имеет право отменять акты правительства и т.п.) — номинально президент главой исполнительной власти как бы не является. Вместо этого Лукашенко хочет присвоить себе право *«осуществлять посредничество между органами государственной власти»*.

И здесь дело не только в том, что Лукашенко целеустремленно добивается максимальной власти при минимальной ответственности. Главное, что *Лукашенко таким образом ставит себя над всеми ветвями власти, становится, как говорится, царем, богом и воинским начальником*. Надо отдать должное последовательности Лукашенко — в этом духе выдержан весь его проект.

Так, президент, на манер государя императора, получает право издавать декреты, имеющие силу законов. А вот с соблюдением законов, принятых парламентом, сложнее — президенту закон не писан. Соответствующее изменение внесено даже в текст президентской присяги: в действующей Конституции говорится *«торжественно клянусь... соблюдать Конституцию и законы»* — в лукашенковском проекте слова «и законы» опущены, чем продемонстрировано полное пренебрежение к парламенту.

Что касается правительства, то формально оно обязано обеспечивать исполнение законов, но реальных механизмов заставить его это сделать нет. Инициировать вотум недоверия правительству может не менее трети депутатов, не ранее чем через год после одобрения программы его деятельности (значит, в течение этого года оно что хочет, то и воротит). Но главное — заложена совершенно иезуитская норма, по которой вотум недоверия правительству служит основанием для роспуска парламента. Получается, **исполнительная** власть вовсе не обязана **исполнять** законы.

### Смотрим дальше

Согласно лукашенковскому проекту 2/3 «сената» избираются не населением, а местными Советами под руководством президентских «вертикальщиков»; треть же «сенаторов» назначается лично президентом. Чем в таком случае этот самый «сенат» будет отличаться от любого подведомственного Александру Лукашенко учреждения? Ровным счетом ничем.

На практике это означает, что подчиненной Лукашенко становится деятельность всего парламента в целом — ведь без согласия «сената» не может быть принят ни один закон! Если же случайно и проскользнет что-то не нравящееся президенту — он возвратит это парламенту со своими возражениями, и тогда потребуется набрать 2/3, а по программным законам — 3/4(!) голосов в обеих палатах. С учетом принципа формирования «сената» — это просто насмешка!

Итак, депутатам «национального собрания» придется либо смириться с ролью президентских подмастерьев, либо этот псевдопарламент и президентские структуры станут раздельно вращающимися шестеренками: национальное собрание будет писать законы для собственного удовольствия, а президент будет делать все, что его левая нога захочет.

Чтобы шестеренка не слишком долго жужжала над ухом, Лукашенко установил строго отведенное для жужжания время, определив количество дней, за рамками которых «национальное собрание» работать не имеет права. Я бы предложил самому Александру Григорьевичу работать президентом только такое же фиксированное количество дней в году — а на остальное время возвращаться на прежнее место работы в совхозе «Городец». И звучит это ничуть не более абсурдно, чем то, что предложил А.Лукашенко — ибо профессиональный, действующий на постоянной основе законодательный орган нужен любой цивилизованной стране ничуть не меньше, чем постоянно работающий глава исполнительной власти.

Если же эта шестеренка (парламент) станет слишком уж назойливо стрекотать, то Лукашенко всегда сможет ее прихлопнуть: кроме вотума недоверия правительству, основанием для роспуска парламента служит *«систематическое или грубое нарушение Конституции»*. Постановка такого вопроса просто бессмысленна по существу. Давайте подумаем: каким образом, хотя бы чисто теоретически, парламент может нарушить Конституцию? Парламент — это **законодательный орган.** Если парламент принимает закон, противоречащий Конституции — Конституционный суд отменяет его, закон автоматически не действует, следовательно, никакого нарушения Конституции не происходит. Иное дело исполнительная власть, которая своими практическими действиями может грубо нарушать и законы, и саму Конституцию, и решения Конституционного суда. Что президент неоднократно и убедительно доказал.

Однако президента как раз-то за нарушения Конституции сместить с поста и нельзя! Если Лукашенко исключил эту конституционную норму — значит, он не собирается соблюдать даже собственную Конституцию. Это подтверждается и принципом формирования Конституционного суда, о чем будет сказано ниже. Впрочем, что говорить о Конституции — импичмент президенту может быть объявлен только за совершение **тяжкого** преступления. Следовательно, чтобы дать основания для импичмента, президент как минимум должен выйти на большую дорогу, а лучше когонибудь убить. Если же он просто что-нибудь украдет или кого-то слегка покалечит, то за это его нет возможности не только отдать под суд, но и отстранить от должности. Однако и в случае тяжкого преступления решение об импичменте должны принять аж 3/4 «сенаторов» — т.е. без согласия людей, которых назначал сам президент, снять его с высшего государственного поста невозможно, будь он самый закоренелый злодей.

### 2,5 плюс 5

Процедура импичмента, измышленная А.Лукашенко, является очень показательным моментом в плане истинных целей референдума. Александру Лукашенко нужно не только побольше власти, но и подольше. Официозные СМИ, равно как и сам президент, стыдливо умалчивают, что в случае принятия лукашенковского проекта президент автоматически продлевает свой срок пребывания у власти до 7-ми с половиной лет. В награду за какие такие успехи и заслуги?

Во-первых, если президент постоянно твердит, что он опирается на народ, почему же он так боится выборов? Во-вторых, пятилетний срок полномочий президента вполне достаточен, редко в каких странах бывает больше. В-третьих, закон обратной силы не имеет, гражданин Лукашенко в любом случае избирался только на 5 лет, и продление срока может иметь место только начиная со следующих выборов (это, кстати, касается и Конституционного суда — как бы там ни было, этот состав должен сохранять свои полномочия до конца).

Любое продление собственных полномочий на референдуме незаконно еще и потому, что референдум — это ведь не демократические выборы со свободным выдвижением кандидатов, равными возможностями для агитации и т.п. Это напоминает советские безальтернативные выборы без выбора. Многие диктаторы использовали референдум для продления своих полномочий, в том числе и пожизненно.

Разве это не показывает во всей красе истинные цели А.Лукашенко? Этим вопросом следовало бы вплотную заняться Конституционному суду.

Однако хоть через три года либо через семь с половиной лет, а президентские выборы все же придется проводить. «Мирская молва — морская волна», — эту поговорку приводил еще А.С.Пушкин. Учитывая полную провальность президентской политики, эти волны могут превратиться в настоящий шторм и вышвырнуть А.Лукашенко с капитанского мостика. В качестве волнореза в лукашенковском проекте предусмотрена следующая мера: половину состава Центризбиркома будет назначать сам президент, а половина будет избираться «сенатом».

Вспомним, сколько информации было о многочисленных нарушениях закона, особенно в сельской местности, во время парламентских выборов — а ведь тогда Центризбирком избирался Верховным Советом, да и президент все-таки не был настолько кровно заинтересован в результатах! При условиях же, оговоренных в президентском проекте, А.Лукашенко почти наверняка очередные выборы выиграет — независимо от того, как избиратели проголосуют. А оспаривать даже самые вопиющие нарушения не только Закона о выборах, но вообще любого закона и Конституции будет негде — Конституционный суд формируется точно по тому же трафарету, что и Центризбирком. В сферу полномочий президента переходит также назначение генерального прокурора, председателя Верховного суда, и практически всех высших должностных лиц государства.

Это лишь наиболее выпуклые и яркие моменты. Примерно по такому принципу составлен весь президентский проект. Чтобы прокомментировать всё, нужно писать не статью, а солидный трактат. Пусть этим займутся юристы, если есть охота. А лучше — наплевать и забыть. Наплевать — в смысле выразить свое «тьфу!» на референдуме. И забыть, что нам угрожала такая опасность — но вспомнить об этом на следующих президентских выборах.

### Власть, власть, власть...

В официозных СМИ был опубликован проект новой конституции целиком, а не отдельно те поправки, которые предлагает А.Лукашенко. Это — правильный тактический ход. Потому что если сопоставить проект с действующей Конституцией, отметить маркером те изменения и дополнения, которые желает внести президент, то смысл их в таком концентрированном виде предстает гораздо отчетливее и яснее, чем когда они размазаны по всему тексту. Чуть ли не каждая строчка буквально кричит: «Диктатура! Диктатура! Диктатура!»

На фоне президентских новаций многие из оставляемых в силе статей действующей Конституции смотрятся очень архаично, а кое-что звучит попросту издевательски как, например, статья о «разделении властей» и о том, что они «сдерживают и уравновешивают друг друга». Никакими усилиями ветви власти не смогут сдержать и уравновесить президента — а уж разделять с кем бы то ни было власть он и подавно не собирается. Да и ветвей-то никаких нет — есть только, по выражению самого А.Лукашенко, «единый ствол», который намертво, как крепкий дуб в почву, вцепился во власть всеми своими корнями.

А раз так, то в случае победы на референдуме у президента будут абсолютно развязаны руки: полная бесконтрольность, никто не вправе будет остановить любое грядущее самоуправство. Как писал В.В.Маяковский, «Моя страна — подросток. Твори, выдумывай, пробуй». К Беларуси это вполне приложимо — нашей независимости тоже маловато лет. Твори любой произвол, выдумывай любую ахинею, пробуй все это на жителях Беларуси. Сами ж разрешили...

# Новая праграма NATO

Стратэгі *NATO* распрацоўваюць новы этап праграмы «Партнёрства дзеля міру».

Як паведаміла агенцтва *Reuter* са спасылкай на амбасадара ЗША у Фінляндыі Д.Шырэра, у рамках гэтай праграмы (яе рабочая назва — «Партнёрства-2») змогуць узяць удзел і краіны, якія прэтэндуюць на членства ў Паўночна-Атлантычным саюзе, і тыя, якія пакуль не маюць намеру ўваходзіць у альянс, — напрыклад, Беларусь, Украіна або некаторыя азіяцкія дзяржавы. На думку Шырэра, «Партнёрства-2» павінна даказаць Расіі, што пашырэнне *NATO* не ўяўляе для яе пагрозы. З другога боку, дзяржавы, не прынятыя ў саюз у першую чаргу, атрымаюць магчымасць апасродкаванага ўдзелу.

Заява амерыканскага пасла папярэднічала візіту ў Скандынавію міністра абароны ЗША Уільяма Пэры.

На прымеркаванай да візіту прэс-канферэнцыі У.Пэры патлумачыў, што *NATO* хоча прапанаваць Маскве ўдзел у працы камітэтаў Паўночна-Атлантычнага альянсу, аднак без права голасу.

# Браніраваныя даўгі

Праз украінска-венгерскую мяжу на мінулым тыдні пераехала 40 расійскіх бронетранспарцёраў БТР-80. Ваенный тэхнікай урад Расіі аддае даўгі былога СССР.

Да канца 1997 г. Венгрыя павінна атрымаць 500 браніраваных машын — эквівалент каля 300 млн. долараў. Пасля гэтага Масква яшчэ застанецца вінная каля 700 млн. USD. Тры гады таму Расія ўжо заплаціла трэцюю частку сваіх даўгоў, перадаўшы Венгрыі 28 самалётаў МИГ-29. На астатнюю суму Будапешт хацеў атрымаць сучасныя ракеты класу «зямля-паветра» С-300, але расійскі ўрад не згадзіўся, а ўзамен прапанаваў удзел у будаўніцтве будапешцкага метро — а гэтага ўжо не захацелі венгры. Кампрамісным рашэннем сталі БТРы. Да браніраваных машын далічылі яшчэ некалькі тысяч бронекамізэлек — для роўнага ліку.

# Дамоў, у Боснію

З 1 кастрычніка 1996 года ўсе бежанцы з былой Югаславіі павінны будуць пакінуць тэрыторыю ФРГ. Такое рашэнне прынялі на сумеснай нарадзе міністры ўнутраных справаў усіх федэральных земляў Нямеччыны.

Германія прыняла найбольш бежанцаў ад пачатку ваеннага канфлікту ў Югаславіі — больш за 330 тыс. чалавек. Цяпер, калі дзякуючы намаганням сусветнай супольнасці вайна скончылася, урад ФРГ не лічыць неабходным утрымліваць бежанцаў. Вядома, ніхто не ставіць пытанне, каб усе выехалі з ФРГ у адзін дзень. Нямецкі ўрад распрацаваў спецыяльную праграму гуманітарнай дапамогі бежанцам, якія вяртаюцца на радзіму. Уляды ФРГ разлічваюць перш за ўсё на добраахвотнае вяртанне, аднак парушальнікі будуць высылацца з ФРГ прымусова.

Міна запаволенага дзеяння пад незалежную Беларусь была закладзена яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Тады 600 тысяч расійскіх чыноўнікаў прыбылі ў наш край, каб ператварыць усё яго насельніцтва ў «пятую калону» Расійскай імперыі. Мінула 150 гадоў, і мы бачым, што дэмаграфічная палітыка графа Мураўёва-вешальніка дала свой плён. Электарат прэзідэнта Лукашэнкі — гэта зусім не «беларускі народ», бо народ не галасуе супраць самога сябе, супраць уласнай незалежнасці і не адмаўляецца ад атрыбутаў уласнай дзяржаўнасці. Так можа галасаваць толькі «пятая калона», задача якой — падарваць, раскалоць маладую дзяржаву. Парадокс сітуацыі ў тым, што «пятая калона» сёння ў Беларусі пераважае. Вось чаму яе памылкова называюць «беларускім народам». Каб зразумець, адкуль узнік гэты парадокс, адкуль узяўся электарат прэзідэнта Лукашэнкі, неабходна звярнуцца да гісторыі апошніх ста пяцідзесяці гадоў...

Сяргей ДУБАВЕЦ

# «Пятая калона»

*Электарат Лукашэнкі — што гэта і адкуль?*

## Пачатак

А пачалося ўсё ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Анексаваная Расійскай імперыяй тэрыторыя Беларусі разглядалася захопнікамі як буферная прастора ў процістаянні з Захадам. «Нулявая зямля», суцэльны шырокі кардон, каранцінная зона.

У Беларусі адно за адным жорстка падаўляліся масавыя нацыянальна-вызвольныя паўстанні (1794, 1831, 1863), адначасова пачалося насычэнне краю мігрантамі з Расіі. Стваралася «пятая калона».

Цяпер ужо мала хто ведае пра характар таго нашэсця (Падрабязна пра гэта гл. артыкул «Почему мы не стали русскими» ў часопісе «Нёман» №1 за 1994 г.). У Беларусь ехалі не проста жыць і працаваць. Ехала начальства ўсіх узроўняў, ехалі суддзі, папы і настаўнікі, ехалі ваенныя пенсіянеры і ўсе, хто мог і хацеў «узяць» адабраную ў ранейшых гаспадароў маёмасць: вёскі, землі, лясы. Усяго, паводле самых сціплых падлікаў, колькасць расійскіх мігрантаў у сярэдзіне XIX ст. склала 600 тысяч чалавек (запомнім гэтую лічбу).

Гэтыя людзі не неслі з сабою вышэйшых жыццёвых стандартаў. Не былі яны носьбітамі і высокай расійскай культуры. Адрозныя рысы гэтай чалавечай масы, закліканай быць аплотам імперыі на захопленых «буферных землях», наступныя:

— найперш трэба вызначыць ворага (бо ад гэтай «печкі» вытанцоўваецца і ўся ўвогуле жыццёвая філасофія);

— па-другое, — быць «истинно-русско-православным» (за гэта давалі працу, маёмасць і проста грошы);

— па-трэцяе, — ігнараваць або прафанаваць нацыянальныя традыцыі карэннага народа.

Трапнае вызначэнне «пятай калоны» даў у сярэдзіне мінулага стагоддзя рэдактар пецярбурскай газеты «Вести» Скарацін. Гэта — «пролетариат, состоящий из чиновников».

Каб не пакідаць ілюзіяў наконт таго, што гэта былі «наши русские кровные братья», спашлюся на тагачаснага начальніка навучальнай акругі І.Карнілава, які пісаў: *«Служба в Западном крае требует от русского большего труда, энергии и такта, чем в центральных губерниях. Сама жизнь в уездном городе или в бедном местечке, вдали от всего родного, среди людей, чужих по вере и по убеждениям, а очень часто просто враждебных, является малоутешительной. Вне службы жизнь российского чиновника полная тревоги и неприятностей, ограничивается узкими рамками семейного или товарищеского кружка».*

Задачай «пятай калоны» якраз і было — рассунуць гэтыя «узкие рамки», ператварыць усю Беларусь ва ўласны «кружок».

Пасля вынішчэння руху супраціву (апошні лідэр паўстання — Кастусь Каліноўскі быў павешаны), палітыка Масквы на захопленых землях зводзілася да поўнага выкаранення тутэйшых людзей (інтэлігенцыі, якая была носьбітам традыцыйных каштоўнасцяў) з усіх пасадаў і прадстаўнічых месцаў. Беларускі народ, лічылі памешчыкі-мігранты, — гэта аднародная шэрая маса ў лапцях, цёмная і недасведчаная. Усё, што вышэй за яе, усе структуры дзяржавы і грамадства ад валаснога пісара і павятовага лекара да генерал-губернатара — займалі прыезжыя людзі. Усіх колішніх святароў, дзеячоў культуры і адукацыі выцяснялі новыя, расійскія людзі. Гэта яны ўзяліся за адукацыю народа, за гадаванне новага пакалення беларусаў, якое павінна было прыняць ідэалогію і задачы расійскай «пятай калоны», стаць раскольным клінам на ўласнай зямлі.

Трэба сказаць, што рашучыя захады імперыі не маглі не прынесці свайго плёну. Сапраўды, першыя прыклады «новага беларуса» з'явіліся ў нас яшчэ ў мінулым стагоддзі. Але нельга не заўважыць і тое, што пры ўсёй каварнасці і інтэнсіўнасці гэтай атакі яе рэальныя маштабныя плады з'явяцца значна пазней.

Масавы прыход «новых беларусаў» супаў з кастрычніцкай рэвалюцыяй у Расіі, калі ў імперыі пачаўся глабальны перадзел улады паводле сацыяльнага прынцыпу. Цяпер ужо тых, прыезжых «уладароў жыцця», інтэлігенцыю і ўласнікаў, начальнікаў усіх узроўняў замянялі тутэйшымі гадаванцамі «пятай калоны».

Так нарадзіліся два дагэтуль жывыя міфы пра тое, што «беларусы да рэвалюцыі былі спрэс бедныя і дурныя сяляне» і што «толькі рэвалюцыя дала беларусам дарогу ў жыццё».

## «Пятая калона» ў дзеянні

Першая сур'ёзная апрабацыя беларусаў у якасці «пятай калоны» звязана з гісторыяй Заходняй Беларусі, якая з 1920 да 1939 года была ў складзе буржуазнай, як тады казалі, Польшчы.

Не сакрэт, што многія беларускія арганізацыі, якія дзейнічалі ў Вільні (тагачасным цэнтры Заходняй Беларусі), атрымлівалі грошы з Масквы. І тут не было б нічога заганнага, калі б умовай тых грошай не была камуністычная прапаганда, накіраваная на падрыў Польскай дзяржавы. У выніку ў даваеннай Польшчы склаўся пашыраны стэрэатып: беларусаў адкрыта атаясамлівалі з бальшавікамі. Прычым усіх беларусаў, без разбору. Нават беларускіх ксяндзоў называлі бальшавіцкімі агентамі. Беларус — значыць, чырвоны.

Тады многія дзеячы нашай культуры, інтуітыўна не жадаючы быць праваднікамі інтарэсаў чужой звышдзяржавы, увогуле адмаўляліся ад удзелу ў палітычнай барацьбе. Бо змагаючыся за незалежнасць Беларусі, яны аўтаматычна рабіліся інструментам у руках Сталіна. Магчыма, тады і паўстаў сіндром беларускага палітыка, які ў прыватнай гутарцы заўсёды заўважыць: «Ведаеш, я ж не палітык».

Вось адна з ілюстрацыяў тае фатальнае безвыходнасці, у якой апыналіся культурнікі — патрыёты Беларусі.

У 1933 годзе на мяжы дзвюх Беларусяў — усходняй і заходняй — адбыўся абмен палітвязняў. Арыштаванага палякамі беларускага літаратара Браніслава Тарашкевіча мянялі на арыштаванага Саветамі беларускага літаратара Францішка Аляхновіча. Людзей у прынцыпе аднаго кшталту, якія сёння ў падручніку літаратуры — на суседніх старонках, мянялі як злачынцаў у двух суседніх дзяржавах. Гэты прыклад касуе ўсялякія ілюзіі наконт таго, што ў тыя часы існавала хоць нейкая беларуская дзяржаўнасць — хоць бы савецкая (выменянага Тарашкевіча Саветы расстралялі яшчэ да вайны, Аляхновіча — у часе нямецкай акупацыі).

Беларушчына разглядалася як патэнцыяльная агентура — і толькі. Найважнейшая выснова: «уз'яднанне» Беларусі 17 верасня 1939 г. было ніяк не ўз'яднаннем нацыі, а ўз'яднаннем адной «пятай калоны», адной агентуры. Увесь нацыянальна і сацыяльна актыўны народ, які служыў толькі сваёй зямлі, пры гэтым «уз'яднанні» быў расстраляны або высланы ў Сібір. Ва ўсходняй Беларусі гэта адбылося на 10-20 гадоў раней. Прычым варта звярнуць увагу на лічбы афіцыйнай статыстыкі.

Да вайны насельніцтва «буфернай тэрыторыі» — Беларусі было настолькі абезгалоўленае (600 тысяч расстраляных і высланых — сімвалічная лічба), настолькі дэнацыяналізаванае і настолькі завербаванае ў савецкую агентуру, што ўвесь народ цяпер складаўся з двух групаў: прыроднага насельніцтва, якое было запалохана і ўвогуле наколькі магло ні ўва што не ўлазіла, і ўласна «пятай калоны» Масквы. Ідэал графа Мураўёва-вешальніка, які пачаў гэтую палітыку сто гадоў раней, быў дасягнуты. Бязвольная, несамастойная краіна, згодная выконваць любыя загады «цэнтра».

Вось чаму гітлераўцам так і не ўдалося стварыць у Беларусі сваю «пятую калону». Для гэтага патрэбныя былі нейкія трэція людзі. Таму асноўныя «расстрэльныя» функцыі ў Беларусі выконвалі ўласаўцы, расійскія казакі, украінцы, літоўцы і Бог ведае хто яшчэ.

Пасля вайны маніпуляцыі з насельніцтвам «буфернай тэрыторыі» працягваліся. Пад выглядам «братняй дапамогі дзеля аднаўлення народнай гаспадаркі рэспублікі» мы атрымалі новую буйную порцыю начальства ўсіх рангаў з Расіі.

Масква строга сачыла за тым, каб у кожнай нацыянальнай рэспубліцы ў яе быў свой раскольны клін — свая паслухмяная «пятая калона».

Палітыка Крамля ў адносінах да беларусаў пасляваеннай Польшчы была арганічным працягам даваеннай палітыкі. Тое, што адбылося ў 1950-я з беларусамі ў Польшчы, у пачатку 90-х адбылося з палякамі ў Літве. Усялякі сепаратызм або аўтанамізм, заснаваны на прынцыпах нацыянальна-культурнай цэльнасці і аўтахтоннасці, а не на вучэнні Маркса-Леніна, разглядаўся і з Масквы, і з Варшавы або Вільні як антыкамуністычны.

Яскравая ілюстрацыя такой палітыкі — становішча на Віленшчыне і Гродзеншчыне. Да 1939-га тут панавала Польшча, было пароўну польскага насельніцтва і польскай актыўнасці — арганізацый, школ, тэатраў, газет... Пасля вайны Віленшчына адыйшла да Літвы, Гродзеншчына засталася ў Беларусі. І што мы бачым? На Віленшчыне працягваюць працаваць польскія арганізацыі, школы, тэатры, газеты. На Гродзеншчыне ўсё гэта — як вымерла.

Вядома, у тыя часы (пасля вайны) нічога не рабілася без указкі Крамля. Тагачасная Польшча ніякай істотнай падтрымкі на гэта не давала і даваць не магла. Самі сабою тыя культурныя пляцоўкі таксама б не выжылі. Так Масква стварала польскую «пятую калону» ў нацыянальна маналітнай Літве — клін на выпадак «залішняга нацыяналізму» літоўцаў. Гэта, дарэчы, пацвердзілі падзеі пачатку 1990-х, калі польскія аўтанамісты імкнуліся адкалоць Віленшчыну на карысць СССР (заўважце — не Польшчы!). Прапаноўвалі нават стварыць Польскую ССР.

Польская «пятая калона» стваралася Масквою ў Літве наўзамен той беларускай «пятай калоны», якая існавала тут за польскім панаваннем. Усе беларускія арганізацыі, школы, тэатры, газеты на Віленшчыне пасля вайны — як вымерлі.

Але і ў заходняй Беларусі пасля вайны стваралася свая «пятая калона», хоць стаўка Масквы рабілася і не на палякаў. Гродна, Брэст, Баранавічы, Ліда былі ператвораны ў савецкія вайсковыя гарадкі, тут сялілі ваенных адстаўнікоў з усяго Саюза (адкуль пасля і паўсплывалі ўсе гэтыя посахавы-замяталіны). Абласныя і раённыя газеты ў гэтым, самым нацыянальна свядомым беларускім рэгіёне, выходзілі толькі па-руску.

Дарэчы, «пятыя калоны» з былых савецкіх вайскоўцаў, гэбістаў і партработнікаў ствараліся ва ўсіх нацыянальных рэспубліках — у тым ліку і ў Літве. Пасля ўзнікнення паўсюль народных франтоў менавіта яны стваралі ў піку свае «інтэрфронты» — ужо нічым не закамуфляваныя групы крамлёўскай рэзідэнтуры. Беларусь стала адзінай былой савецкай рэспублікай, дзе інтэрфронт перамог.

Тут мне давядзецца яшчэ раз звярнуцца да прыкладу Літвы. Рэч у тым, што сёньня ў Літве няма інтэрфронту. Ён увесь пераехаў у Беларусь.

У Літве інтэрфронт называўся «Единство». 13 студзеня 1991 г. ён з дапамогай савецкіх танкаў захапіў нацыянальнае тэлебачаньне. У сутычках з войскам тады загінулі людзі — абаронцы незалежнасці.

Людзі, якія тады пераступілі праз кроў і амаль прыйшлі да ўлады, як дзьве кроплі вады падобныя да сённяшняга кіраўніцтва РБ і да таго «пралетарыяту з чыноўнікаў», пра які пісаў Скарацін. Каб не быць галаслоўным, прывяду канкрэтныя прыклады.

*(Працяг у наступную пятніцу)*

---

*Артыкул з нямецкага часопіса Der Spiegel*

# Славянскі фюрэр

Пасля сустрэчы з хворым Барысам Ельцыным прэс-канферэнцыя канцлера Гельмута Коля ў маскоўскім урадавым аэрапорце Унукава-2 зацягнулася. Расійскія прадстаўнікі бяспекі нярвова паглядалі на гадзіннікі. Самалёт з Мінска з прэзідэнтам Лукашэнкам на борце закружыўся сярод дажджавых аблакоў і чакаў вызвалення паласы, зарэзэрваванай для адлёту Коля.

42-гадовы Лукашэнка сам сябе запрасіў у Маскву, шукаючы прыкрыцця з тылу перад пагрозай бяды ў сваёй усходнеславянскай краіне: беларускі парламент выступіў супраць праекта новай канстытуцыі, якая дае прэзідэнту яшчэ большую ўладу і працягвае тэрмін яго паўнамоцтваў да сямі гадоў. Парламентарыі бачаць у гэтых намерах далейшы крок да абсалютнай прэзідэнцкай улады. *«Наша краіна знаходзіцца на краі фашысцкай дыктатуры»,* — з трывогай заяўляе спікер Сямён Шарэцкі. Тым часам прэзідэнт Лукашэнка, вярнуўшыся з Масквы ў Мінск, прыгразіў *«адпаведным дзеяннем»*.

Каб адцягнуць увагу ад палітычнага і эканамічнага бедства, Лукашэнка вышуквае ворагаў, заяўляючы нібыта рэспубліка *«знаходзіцца ў аблозе замежных спецслужбаў»*. Такая істэрыя ўжо мела аднойчы фатальны зыход. Год таму беларускі ваенны верталёт расстраляў паветраны шар, нягледзячы на дазволены палёт. Загінулі два амерыканцы.

Барацьба за ўладу ўскладняе інвестыцыйны клімат у краіне, які па ацэнцы брытанскага часопіса *The Economist* з'яўляецца *«самым цяжкім ва Усходняй Еўропе»*.

У сакавіку МВФ замарозіў другую частку крэдыту *stand-by* у 300 мільёнаў долараў — а гэта сёмая частка агульнага знешняга доўгу Беларусі. Небяспечным здаецца для МВФ распараджэнне эканамічнага прафана Лукашэнкі: *«Ніхто не мае права гандляваць і спекуляваць»*. Бывай, рынкавая эканоміка!

Лукашэнка прыйшоў да ўлады на папулісцкіх лозунгах. З таго часу ў народнай гаспадарцы працягваецца свабоднае падзенне.

Лукашэнка не пераносіць крытыку. Ад прэсы ён патрабуе *«канструктыўных артыкулаў аб працоўным чалавеку»*. Газеты, якія сумняваюцца ў ягонай мудрасці, забараняюцца. Радыё 101.2, якое, між іншым, перадавала праграмы *BBC* і *Deutsche Welle*, таксама павінна было замоўкнуць.

Халерычны аўтакрат забараніў прафсаюзам страйкі на «эканамічна важных прадпрыемствах». Рашэнні Канстытуцыйнага суда ён ігнаруе і нават дазваляе КДБ праслухоўваць тэлефон старшыні КС Ціхіню. Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык сталі першымі дысідэнтамі пасля распаду СССР, якія папрасілі палітычнага прытулку ў ЗША.

Лукашэнка выбраў сабе два прыклады: заснавальніка савецкай тайнай паліцыі Фелікса Дзяржынскага і Адольфа Гітлера, чыю «цвёрдую руку» і «строгі парадак», ён хваліў у інтэрв'ю *Handelsblatt*. *«Ён ёсць цар, бог і вярхоўны галоўнакамандуючы»*, напісаў лідэр камуністаў, віцэ-спікер парламента Васіль Новікаў. Большая частка дзесяцімільённага насельніцтва застаецца ў апатыі.

Лукашэнка вяртае школьнікам падручнікі савецкіх часоў, узняў над сваёй рэзідэнцыяй сцяг савецкай рэспублікі, а у час ўрадавых прыёмаў выконваецца гімн савецкіх часоў — чаго больш нідзе не пачуеш.

«Марыянетка Масквы», Лукашэнка падпісаў 2 красавіка ў георгіеўскай зале Крамля саюзную дамову з Расіяй, і нават патрыярх Алексій II памаліўся за *«брацкае аб'яднанне»*. Новае дзяржаўнае аб'яднанне ССР ужо амаль ідэнтычнае СССР. Дарэчы, распад СССР Лукашэнка лічыць абсурдам і злачынствам.

Масква знаходзіць зручным славянскі саюз, тым больш, што ініцыятыва зыходзіць ад меншага брата. Сяргей Караганаў, былы дарадца Ельцына, бачыць у аб'яднанні толькі выгаду. Расія прыбліжае стратэгічна важны Калінінград, зноў перасоўвае свае войскі да мяжы з Польшчай, Крэмль выплочвае палову кошту для новых памежных збудаванняў.

Аднак Беларусь у якасці 22-ой аўтаномнай рэспублікі ў Расійскай Федэрацыі не задаволіць славалюбства Лукашэнкі. Ён хоча на самы верх, на расійскі трон.

Журналісту Юрыю Свірку ён даверліва сказаў, што прэзідэнцкія выбары ў Расіі з кандыдатам Лукашэнка мелі б іншы вынік: *«75% Лукашэнка, 25% Ельцын»*. Руская шавіністычная газета «Завтра» ўжо б'е ў пераможныя званы: *«Лукашэнка — фюрэр славян»*.

*Der Spiegel, №39, 23 верасня 1996г. (Скарочаны пераклад)*

СВАБОДА
27 верасня 1996 г., № 73

# Вогненная таямніца

***Шаравая маланка доўгі час заставалася апошняй неразгаданай прыроднай з'явай. Двое іспанскіх фізікаў, здаецца, дакапаліся да таямніцы, паведамляе брытанскі часопіс* Nature**

Найперш пра саму загадку. Шаравая маланка з'яўляецца нечакана, звычайна пад канец, а то і пасля навальніцы. Выглядае як вогненны шар, свеціцца яркім, але не асляпляльным святлом, найчасцей мае чырвоны, аранжавы, жоўты, белы, зрэдку зялёны або блакітны колер. Гэты шар мае памеры ад яблыка да баскетбольнага мяча, хоць некаторыя сведкі сцвярджаюць, што бачылі маланкі дыяметрам нават у некалькі метраў. Праз некаторы час — ад некалькіх секунд да дзвюх хвілін — шаравая маланка знікае, пры гэтым часам бывае сапраўдны гром, а часам няма аніякага знаку.

Самае ж дзіўнае — як маланка рухаецца. Вогненны шар звычайна перамяшчаецца гарызантальна над паверхняй зямлі з хуткасцю некалькі метраў у секунду, пры гэтым раптоўна мяняе напрамкі, спыняецца, круціцца на месцы — і зноў ляціць далей. Паводле словаў відавочцаў, шаравыя маланкі маюць уласцівасць прыцягвацца да людзей і жывёл. Яны нават могуць пранікаць праз шчыліны ў аконных рамах, замковыя адтуліны — і яшчэ немаведама праз што.

Напрыклад, апісаны выпадак, калі шаравая маланка невядома як уляцела ў салон расійскага авіялайнера, ціхутка праляцела над галовамі пасажыраў, падзялілася на два меншыя шары, якія зноў злучыліся, — і гэтаксама без гуку вылецела з іншага боку самалёта. А ў сетцы *Internet* мне выпадкова трапілася іншае сведчанне — амерыканскага метэаролага Піта Частана: *«Шар памерам з баскетбольны мяч раптам з'явіўся ў самалёце і пачаў ганяцца за сцюардэсай па ўсім салоне. Маланка знікла, так і не здолеўшы дагнаць дзяўчыну».* На жаль, амерыканец не паведамляе, колькі часу гэта трывала і як хутка ўцякала сцюардэса.

Таямнічую з'яву шаравай маланкі на розны капыл тлумачылі навукоўцы і проста фантазёры. Адныя ў якасці прычыны называлі ядравыя рэакцыі, іншыя — высокія мікрахвалевыя энергіі, трэція — антыматэрыю. Натуральна, былі і такія, хто ва ўсіх гэтых загадках бачыў знакі іншапланетных цывілізацыяў. А самыя зацятыя скептыкі і па сённяшні дзень упэўненыя, што ніякіх шаравых маланак не існуе, а ўсе факты папросту прыдуманыя істэрычнымі або ласымі на славу лгунамі.

І вось навукоўцы з *Universidad Complutense* ў Мадрыдзе Антоніё Раньяда і Хасэ Труэба прапанавалі нядаўна новую версію. Іспанцы не адкрылі ні новага закону фізікі, ні невядомага стану матэрыі. У іхняй мадэлі шаравая маланка — гэта папросту куля вельмі гарачага (больш за 30.000°С) іанізаванага паветра. Канечне, адразу ўзнікае шэраг пытанняў: *як паветра можа заставацца доўгі час гарачым? чаму яркасць святла не змяншаецца паступова разам з астываннем? чаму гарачы шар не ўзлятае ўгару, а сунецца гарызантальна?*

На думку навукоўцаў, іанізаванае паветра не ўцякае з кулі, бо знаходзіцца ў своеасаблівым магнітным вузле. Падчас навальніцы лініі магнітнага поля могуць утвараць замкнутыя колы, а калі гэтыя колы спалучаюцца паміж сабой — так, як звенні ў ланцугу, — то ўзнікае магнітны вузел. І калі раптам паток іонаў, што ўтварыліся ў выніку электрычнага разраду (напрыклад, звычайнай маланкі), трапіць у такі вузел, то часціцы пачынаюць круціцца ў замкнёным, шарападобным аб'ёме.

На старонках часопіса іспанцы матэматычна пацвярджаюць, што такая сістэма стабільная, выпраменьвае энергію і можа даволі працяглы час існаваць без змены напружанасці магнітнага поля і тэмпературы. Прафесар Раньяда лічыць, што гэтую тэорыю можна будзе праверыць эксперыментальна ў «такамаках» — спецыяльных установках для мірнага выкарыстання тэрмаядзернай энергіі.

Рэдакцыя часопіса *Nature* ахарактарызавала адкрыцце іспанскіх навукоўцаў як «вялікі пералом у навуцы». Сапраўды, шаравая маланка перастане быць аргументам для тых, хто кіруецца прынцыпам *гэтага не можа быць, таму што не можа быць ніколі.* З гэтай прыроднай з'явай цяпер давядзецца лічыцца і афіцыйнай метэаралогіі, якая не прызнавала шаравую маланку доўгія дзесяцігоддзі. Праўда, ніхто не дасць гарантыі, што пастаўленыя ўсе кропкі над *і*, а вогненны шар не выдасць якой-небудзь новай загадкі.

Зрэшты, шаравая маланка — рэч хоць і даволі рэдкая, таямнічая, па-свойму прыгожая, але — небяспечная. Напрыклад, нядаўна нашая газета падрабязна пісала, як цэлы тыдзень грымелі выбухі на артылерыйскай базе Шышчыцы ў Слуцкім раёне, — і шаравая маланка разглядаецца як адна з магчымых прычын катастрофы. Таму лепш усё ж не сутыкацца з гэтай крыху містычнай прыроднай з'явай. А калі каму-небудзь надта карціць убачыць яскравы вогненны шар — раю паглядзець узнагароджаны прэміяй «Оскар» фільм Нікіты Міхалкова «Стомленыя сонцам».

Лепш у тэлевізары, чым *каля* тэлевізара, ці не праўда?

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## АФІША

### ТЭАТРЫ

Усё багацейшым становіцца тэатральнае жыццё Мінска. З пачатку кастрычніка адкрываецца сезон у **Дзяржаўным акадэмічным рускім тэатры РБ імя М.Горкага. 1 кастрычніка** тут адбудзецца **бенефіс** народнай артысткі СССР **А.Клімавай, 2 кастрычніка** можна паглядзець **«Букееў і кампанія»** — імпрэзу ў жанры «драма кахання» паводле п'есы М.Горкага, **3 кастрычніка — «Незвычайныя прыгоды салдата Чонкіна»** У.Вайновіча.

**4 кастрычніка** адкрывае новы сезон і **Дзяржаўны Маладзёжны тэатр** (вул.Даўмана, 1). Гледачоў запрашаюць на прэм'еру містычнай драмы Э.Олбі **«Малышка Эліс»** у пастаноўцы запрошанага з ЗША рэжысёра Крыстафэра Марціна. Пачатак спектакля а 19-й гадзіне.

На афішах Мінска з'явілася новае імя — **Малы Тэатр** (раней ён называўся **Альтэрнатыўны**). **3 кастрычніка** ў Палацы культуры прафсаюзаў стары тэатр з новай назвай дае добра вядомую імпрэзу — **«Камедыю»** В.Рудава.

Афішы астатніх мінскіх тэатраў на бліжэйшы тыдзень выглядаюць так:

**Тэатр оперы і балета. 27 верасня** — балет **«Страсці»** («Рагнеда») А.Мдзівані, **28 верасня** опера **«Рыгалета»** Дж.Вердзі, **29 верасня** раніцай — два аднаактныя балеты: прэм'ера «народнага трылера» пад назвай **«Кругаверць»** А.Залётнева і **«Прывал кавалерыі»** І.Армсгеймера, вечарам — опера В.-А.Моцарта **«Вяселле Фігара», 1 кастрычніка** опера Дж.Вэрдзі **«Аіда», 3 кастрычніка** опера Дж.Пучыні **«Чыо-Чыо-Сан».**

**Тэатр імя Янкі Купалы 27 верасня** святкуе юбілей народнай артысткі Беларусі **З.Браварскай.** Урачыстасць пачнецца а 18-й гадзіне, акрамя віншаванняў пройдзе спектакль **«Смех лангусты». 28 верасня** ў купалаўскім тэатры камедыя паводле М.Задорнава **«Таполевая завея».** У нядзелю, **29 верасня,** на ранішні спектакль запрашаюць дзяцей — гэта **«Пунсовая кветачка»,** пачатак у 11:30, а дарослыя ўвечары могуць паглядзець трагікамедыю Э.Эліса і Р.Рыза **«Умовы дыктуе жанчына». 3 кастрычніка** — яшчэ адна трагікамедыя — **«Гульня ў джын»** Д.Коўберна. На Малой сцэне купалаўскага тэатра **28 і 29 верасня** прэм'ера — чэхаўская **«Чайка».**

**Тэатр-студыя кінаакцёра** прапануе паглядзець **29 верасня, 1 і 2 кастрычніка «Фантазіі па Гогалю»**, а **3 кастрычніка** — **«Мы ідзём глядзець «Чапаева»** па п'есе А.Данілава.

**Тэатр музычнай камедыі** прадстаўляе **27 верасня «Прынцэсу цырка»** І.Кальмана, **28 верасня «Жанчыну-кажана»** Ё.Штраўса, **29 верасня** — дзіцячую оперу **«Гісторыя Кая і Герды»** С.Баневіча (ранак) і **«Ноч у Венецыі»** Ё.Штраўса (вечар). **2 кастрычніка — «Марыца»** І.Кальмана, **3 кастрычніка** — мюзікл У.Кандрусевіча **«Шклянка вады»**, **4 кастрычніка** — музычная камедыя Ільіна і Лукашова **«Мая жонка — ілгуння».**

**Тэатр сатыры і гумару «Хрыстафор»** запрашае на вядомыя публіцы імпрэзы: **28 верасня — «М і Ж», 29 верасня — «Кавалеры запрашаюць дамаў», 2 кастрычніка — «Хто каго?».**

### КАНЦЭРТЫ

**Канцэртная зала філармоніі** запрашае **27 верасня** на сустрэчу з Камерным рускім **аркестрам народных інструментаў,** які прыехаў з горада Уладзіміра і будзе выконваць творы расійскіх кампазітараў XIX і XX ст.ст., а таксама рускія народныя песні. **28 верасня** адбудзецца канцэрт **Дзяржаўнага камернага аркестра РБ** з удзелам французскага дырыжора Мішы Каца. У праграме — Бах, Дворжак, Малер, Моцарт. **1 кастрычніка,** у Міжнародны дзень музыкі, у філармоніі будзе іграць **Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр РБ.** Прагучаць Канцэрт № 2 для фартэпіяна з аркестрам С.Рахманінава і вядомы твор І.Стравінскага «Вясна свяшчэнная» — музычныя карціны паганскай Русі. Дырыжор П.Д.Пакэл, салістка — заслужаная артыстка РБ Ірына Шуміліна. **4 кастрычніка** на галоўнай канцэртнай сцэне краіны выступіць харэаграфічны ансамбль **«Харошкі»,** праграма якога называецца «Бывай, XX стагоддзе».

У **Зале камернай музыкі 30 верасня** расійская спявачка **Алена Фралова** дае канцэрт, у якім прагучаць песні на вершы Марыны Цвятаевай, а таксама аўтарскія песні. Пачатак у 19 гадзін.

**30 верасня** ў памяшканні **Тэатра музычнай камедыі** выступяць кітайскія артысты — **ансамбль «Усход»,** які прадстаўляе традыцыйныя танцы і спевы Кітая і Маньчжурыі. Пачатак а 19-й гадзіне, кошт квіткоў ад 5 да 20 тысяч рублёў.

**4 кастрычніка** ў памяшканні **Палаца прафсаюзаў** адбудзецца канцэрт групы **«Ляпис Трубецкой».** Пачатак а 20-ай гадзіне.

### КАНТРАСТЫ НЯМЕЦКАГА КІНО

**Дом літаратара** запрашае на праграму твораў нямецкіх кінематаграфістаў. **27 верасня** пройдзе **«Гадзіна нуль»** (1975, рэжысёр З.Райтц), **28 верасня — «Мы можам і інакш»** (1993, рэжысёр Д.Бук). Абодва фільмы — прыгодніцкія, дзеянне першага разгортваецца ў 1945 годзе, а другога — пасля аб'яднання дзвюх Германій. **29 верасня** можна паглядзець славуты фільм В.Вэндэрса **«Неба па-над Берлінам»** (1987), шэдэўр, які атрымаў шмат міжнародных прызоў, у тым ліку прыз Канскага кінафестывалю. Пачатак сеансаў — а 19-й гадзіне.

### ЦІХАЕ МЕСЦА

**27 верасня** адчыняецца новы музычны клуб-бар *«Філін's»*. Арганізатары клуба — гаспадары колішняй *Addis-Abbeby*, клуба, які набыў пэўную вядомасць сярод мінскае моладзі. Нагадаем, што той клуб праіснаваў амаль дзесяць месяцаў, але, па словах гаспадароў, быў вымушаны з'ехаць з кінатэатра «Піянер» з прычыны высокай арэнднай платы. Паводле нашых звестак, руку да высялення *Addis-Abbeby* прыклала і кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Як бы там ні было, але знойдзена другое «ціхае месца» — каля Пішчалаўскага замка, болей вядомага цяпер як СИЗО на Валадарскага. Новы клуб *«Філін's»* будзе невялікім — на 30 месцаў. Задумваецца, што вядомыя групы і выканаўцы будуць выступаць па-за сваім амплуа. Так, адным з першых выступоўцаў будзе гурт «Метэор», якая прэзэнтуе праграму акустычнага рэстараннага блюзу.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

## Субота 5 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 Новости.
8.15 «Созвучие».
8.35 Республиканские соревнования по конному спорту.
9.05 Здоровье.
9.40 Уроки Н.Новожиловой.
10.10 Все про все.
10.35 «Ералаш».
10.55 Мультфильмы.
11.30 Победитель.
11.50 Многоголосие.
12.20 «Сыновья уходят в бой». Х/ф.
13.55 Коллаж.
14.25 Мастерская.
14.45 Мир природы и увлечений.
15.05 «Мольба». Д/ф.
15.30 «История любви».
15.50 «Доживем до понедельника». Х/ф.
17.30 Галерея.
18.00 «Дожинки».
20.15 Банка комиксов.
20.45 Колыбельная.
21.00 Новости.
21.45 Футбол. Отборочный матч чемпионата мира. Сборная Эстонии – сборная Беларуси.
23.30 Х/ф «Поздние свидания».

**ОРТ**
7.00 Х/ф «Забудьте слово смерть».
8.30 Слово пастыря.
8.45 Домашняя библиотека.
9.00 Новости.
9.15 «Не зевай!».
9.45 Утренняя почта.
10.20 Смак.
10.40 Третьяковка.
11.05 Х/ф «Республика ШКИД».
12.50 В мире животных.
13.30 «Очевидное-невероятное».
14.00 Новости .
14.20 «Возвращение на Остров сокровищ».
15.10 «Давай меняться». Мультфильм.
15.20 Окно в Европу.
15.50 «Колесо истории».
16.35 Новости.
16.55 Фильм «Двенадцать стульев».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 «Вьетнам. До востребования».
21.50 Брэйн ринг.
22.35 Фильм «Волосы».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.30 «Бернхард Люгинбюль. Сожжение N9». Д/ф.
7.50 Мультфильм.
8.10 «Мак и Матли».
8.30 По вашим письмам.
9.00 Ваш партнер.
9.15 Парламентская неделя.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Тележурнал «Здоровье».
10.30 Доброе утро.
10.55 Врача вызывали?
11.25 Анонимные собеседники.
11.50 «Поэт в России – больше, чем поэт».
12.15 Правда о гербалайфе.
12.25 Проще простого.
13.00, 19.00 Вести.
13.20 «Софи».
14.10 Ничего, кроме...
14.25 Де факто.
14.50 Мультфильмы.
15.10 Сад культуры.
15.35 «Сибирь. Съемка против света». Д/ф.
16.35 Своя игра.
17.05 1-й Всемирный фестиваль цирков.
18.00 «Королева Марго». С. 9.
19.35 Субботний вечер с Людмилой Зыкиной.
20.55 Погода на завтра.
21.00 Совершенно секретно.
21.55 «Тернер и Хуч». Х/ф.
23.40 1-й Всемирный фестиваль цирков.

**Санкт-Петербург**
9.25 По реке плывет топор.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Информ ТВ.
10.10 «Честь имею».
10.40 Непознанное.
11.10 Ток-шоу «Наобум».
11.40 Страсти-мордасти.
12.10 Мариинский балет.
13.40 Мультфильм.
14.10 По всей России.
14.25 Театральная провинция?
14.50 Во славу Отечества.
15.10 Спортивное обозрение.
15.25 Парадоксы истории.
16.10 Уик-энд с детективом.
16.35 Детское ТВ: «Семь пятниц на неделе».
17.00 Равняется любовь.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Большой фестиваль.
19.25 «Дама с собачкой». Х/ф.
20.55 Светская хроника.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 Круговорот.
22.00 Уик-энд с детективом.
22.20 Хоккей. Чемпионат России.
23.00 «Яма». Х/ф.

**IV канал, НТВ**
6.00 Сегодня.
6.20 Х/ф «Чудесные годы».
6.45 «Черный осьминог».
7.35 «Саламандра». Х/ф.
9.15 Д/ф «Вспомним те годы. 1988».
10.05 Х/ф «Гусарская баллада».
11.35 «Пока не наступит утро».
12.25 Лучшие цирки мира.
14.50 Шаг из круга.
15.10 По страницам «Шарман-шоу».
15.40 «Кто кого».
16.05 Новости кино.
16.25 Время «Ч».
17.00 «Горец».
17.30 Дог-шоу «Я и моя собака».
18.00, 21.00 Сегодня.
18.30 Фильм о фильме «Ревизор».
18.50 «Пока не наступит утро».
20.00 Намедни.
20.45 Куклы.
21.35 «Калейдоскоп ужасов». Х/ф.
23.40 Третий глаз.
0.25 Ночной канал.»Плейбой».

## Нядзеля 6 кастрычніка

**Белорусское телевидение**
8.00 Международный курьер.
8.30 «Колесо времени».
9.00 «Конон».
9.25 К Дню учителя.
9.55 «Все дело в шляпе».
10.30 «Все нормально, мама!»
11.00 Туробъектив.
11.25 Арсенал.
11.55 Вершина мира.
12.10 «Цирки мира».
13.30 Студия «Окно».
14.15 Сельчане.
14.45 «Война в воздухе».
15.10 Силач.
16.05 Поздравляем вас!
16.50 Бездельник.
17.20 Вершина мира.
17.40 «Дожинки».
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Спортивный телекурьер.
21.05 Новости-ТВ.
21.20 Ток-шоу «Карамболь».
21.55 Х/фе «Отец».
23.45 Бархатный сезон.
0.15 Видимо-невидимо.

**ОРТ**
6.50 Фильм «Ключ без права передачи».
8.25 Мультфильм «Сказка о мертвой царевне и о семи богатырях».
9.00 Новости.
9.15 «Непутевые заметки».
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 «Служу России!».
11.30 Играй, гармонь любимая!
12.00 В городе «N».
12.30 Сериал «Подводная одиссея команды Кусто».
13.25 Смехопанорама.
14.00 Новости .
14.20 Владимир Спиваков и «Виртуозы Москвы».
15.20 Клуб путешественников.
16.05 Как-то раз.
16.15 Мультфейерверк.
17.00 «Один на один».
17.30 Счастливый случай.
18.20 Игорь Тальков.
19.00 Время.
19.40 Х/ф «Особенности национальной охоты».
21.45 Футбольное обозрение.
22.15 Новости.
22.25 Х/ф «Захват в Северном море».

**Канал «Россия»**
7.00 Лукоморье.
7.35 Мультфильм.
7.55 Спортлото.
8.05 «Мак и Матли».
8.35 Пилигрим.
8.55 Мультфильм.
9.05 Устами младенца.
9.30 Присяга.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Русское лото.
10.55 Приз группы «Савва».
11.00 Человек на земле.
11.25 Книжная лавка.
11.50 Мультфильм.
12.00 К.Паустовский. «Ручьи, где плещется форель».
12.25 Проще простого.
13.00, 23.10 Вести.
13.20 «Уснувший пассажир». Х/ф.
14.45 Ничего, кроме...
15.00 В мире животных.
15.25 Караоке по-русски.
15.55 Репортер.
16.10 Футбол без границ.
16.40 «У всех на устах».
17.00 Волшебный мир Диснея.
18.00 «Королева Марго». С. 10.
19.00 Зеркало.
19.55 Погода на завтра.
20.00 Репортаж ни о чем.
20.15 «Ты – мне, я – тебе». Х/ф.
21.45 «САС».
22.40 У Ксюши.
23.25 Петербургские сезоны.

**Санкт-Петербург**
9.25 Папа, мама и я – спортивная семья.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ.
10.10 Овертайм.
10.35 «Олимпийская гонка». Т/ф.
11.10 Старое танго.
11.40 Весь этот цирк.
12.10 «Не о Сталине».
13.40 «Один день». Телеспектакль.
14.10 Еще одна Россия.
15.10 Отзвуки белых ночей.
16.05 Спортивная программа.
16.35 Детское ТВ: «Каша-малаша», «Золотой ключ», «Бросайка».
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Сокровища Петербурга.
19.25 «Без правосудия». Х/ф.
21.10 Ноу смокинг.
21.55 Международное обозрение.
22.20 «Обнаженная в шляпе». Х/ф.

**IV канал, НТВ**
6.00 Х/ф «Чудесные годы».
6.25 «Черный осьминог».
7.10 Х/ф «Привет, артист!».
8.45 Д/ф «Вспомним те годы. 1989».
9.40 «Пока не наступит утро».
10.30 Х/ф «Калейдоскоп ужасов».
12.25 Намедни.
13.05 Куклы.
14.15 Подъем переворотом.
14.45 Д/ф «Венок лавровый, изумрудный».
15.25 Горизонты кино и видео.
15.55 Кто кого.
16.20 Сергей Лейферкус. Музыкальные истории.
17.00 «Горец».
17.30 Телеигра «Сто к одному».
18.00 Сегодня.
18.30 «Человек в маске».
19.10 «Исчезнувшие цивилизации». «Греция».
20.00 Итоги.
21.10 Фильм «Замороженный».
23.25 Лучшие шоу и варьете мира. «Ночной клуб «Крейзи Хорс».

СВАБОДА
27 верасня 1996 г., № 73

# Лета працягваецца яшчэ на месяц

**У апошнюю нядзелю верасня беларусы ўжо не будуць пераводзіць гадзіннікі назад.**

У 1996 годзе летні час заканчваецца 27 кастрычніка (з суботы на нядзелю) у 3 гадзіны ночы. Каб паспаць лішнюю гадзінку, жыхарам Беларусі давядзецца чакаць яшчэ месяц.

У мінулыя гады Беларусь, як і многія іншыя еўрапейскія краіны, пераводзіла гадзіннікі на зімовы час у апошнюю нядзелю верасня. А вось Вялікабрытанія, ЗША і Канада — у апошнюю нядзелю кастрычніка. Еўрапейская эканамічная камісія выказалася за аднначасовы перавод стрэлак — у кастрычніку. Гэтую прапанову падтрымалі таксама Беларусь, Украіна, Расія і іншыя краіны СНД. Так што цяпер амерыканцы і беларусы будуць пераводзіць стрэлкі гадзінніка ў адзін дзень.

Дарэчы, Расія збіраецца правесці яшчэ адну навацыю — адмяніць т.зв. дэкрэтную гадзіну, уведзеную ў 30-я гады. Гэта значыць, што неўзабаве маскоўскі час можа супасці з мінскім. Што ж, нічога дзіўнага: час, па якім жыве Беларусь, краіны Балтыі, Украіна, афіцыйна называецца «ўсходнееўрапейскім», а масквічам таксама ў Еўропу хочацца.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Майстар нацыянальнага краявіду

**Сёлета спаўняецца 100 год з дня нараджэння вядомага беларускага графіка Аркадзя Астаповіча (1896—1941). Да гэтай падзеі прымеркаваная выстава ягоных твораў у Нацыянальным мастацкім музеі РБ.**

Аркадзь Антонавіч Астаповіч прайшоў мастакоўскую школу ў славутым пецярбургскім мастацкім аб'яднанні «Мир искусства», перажыў сапраўдны росквіт свайго таленту ў 20-я гады, а пазней мастака фактычна зламала варожая да творчасці ідэалогія таталітарызму.



*А.Астаповіч. Дворык. Першая палова 1920-х гг.*

Сучаснікі, можна сказаць, прайшлі міма мастака, яго талент застаўся незапатрабаваным. Нават блізкія сябры не бачылі патэнцыяльных магчымасцяў Астаповіча, занадта сціплага і далікатнага, каб дабівацца вядомасці. Толькі праз 20 гадоў пасля яго смерці, у 1960 г., у Мінску адбылася першая выстава — і пра Астаповіча загаварылі як пра майстра камернага нацыянальнага краявіду, мастака бездакорнай шчырасці.

Вядомы беларускі жывапісец Н.Тарасікаў адзначыў, што Астаповіч адносіцца да тых мастакоў, якія «ціха, спакваля, няхутка, сціпла чакаюць свайго росту, сталасці мастакоўскага майстэрства, шчаслівага выпадку ці ўдалага моманту, як працалюбныя пчолкі ўсё жыццё збіраюць нектар з розных кветак для задуманага».

Створанага Астаповічам дастаткова, каб казаць пра яго як пра безумоўнага майстра — без скідак на час і абставіны. «Шчаслівы выпадак», якога ён так і не дачакаўся, ці «больш спрыяльны для мастацтва час» далі б, вядома, іншыя вынікі. Не віна мастака, што яму выпала ствараць, як ён пісаў, «у час, калі ўсё выконваецца «абы-абы». Ён верыў, што дасканалыя творы прыносяць вядомасць мастакам. Вядомасць прыйшла, хоць і позна. Аркадзь Астаповіч — адзін з тых, хто стала ўвайшоў у гісторыю беларускага мастацтва XX стагоддзя.

**Надзея УСАВА**







СПОРТ

# Пад знакам блізнятаў

### ШАХМАТЫ: СУСВЕТНАЯ АЛІМПІЯДА

Шахматная Алімпіяда ў Ерэване перайшла свой экватар. У сёмым туры зборная Беларусі сустракалася з шахматыстамі Бразіліі. Аляксей Аляксандраў на першай дошцы і Яўген Мачалаў — на чацвёртай згулялі ўнічыю, а Юрый Шульман (другая) і Віктар Купрэйчык (трэцяя) перамаглі. Вынік — 3:1. Аднак чым лепш гуляеш, тым вышэй падымаешся па табліцы і трапляеш на больш моцных сапернікаў. Восьмы тур якраз такіх для нашых хлопцаў і выбраў — гросмайстарскі квартэт першай каманды гаспадароў. Нашыя выставілі наймацнейшы састаў — таксама гросмайстары, аднак шахматны рэйтынг у супернікаў больш высокі, што яны і даказалі. Барыс Гельфанд і Аляксей Аляксандраў абаранілі свае пазіцыі, а Юрыю Шульману і Вячаславу Дыдышку гэтага зрабіць не ўдалося — 1:3. Пасля гэтага ў нашых стала 18,5 ачка. А лідзіруюць расіяне, якія выйгралі ўсе восем сваіх паядынкаў. У восьмым туры яны перайгралі іспанцаў — 2,5:1,5. Сустрэча лідэраў Гары Каспарава і Аляксея Шырава (рыжанін прыняў іспанскае грамадзянства) скончылася ўнічыю. У каманды Расіі 23 ачкі, у бліжэйшых канкурэнтаў — па 21. У 9 туры мужчынская каманда Беларусі буйна прайграла шведам — 0,5:3,5. Беларускі ігралі так няўдала, што апусціліся ў раён 40-х — 50-х месцаў. Там праціўніцы папрасцей, чым нашыя і пакарысталіся. Буйных перамогі над Партугаліяй — 3:0 і Манголіяй — 2,5:0,5 дазволілі ім увайсці ў трэці дзесятак. Па дзве перамогі атрымалі Алена Заяц і Генрыета Лагвілава, паўтары ачкі дадала ў капілку каманды Таццяна Загорская. Ачкоў цяпер у зборнай Беларусі — 13,5. А на версе турнірнай табліцы — шахматысткі Грузіі, Кітая, Украіны і Расіі. У апошнім туры жаночая зборная згуляла ўнічыю 1,5 на 1,5 з камандай ЗША.

### БУДУЧЫ ГРОСМАЙСТАР?

Магчыма, хутка шэрагі беларускіх гросмайстараў папоўняцца. Станіслаў Смятанкін з Брэста стаў у Славакіі бронзавым прызёрам чэмпіяната Еўропы сярод юнакоў да 16 год. Два гады назад Смятанкін ужо быў трэцім на падобным турніры, але ва ўзроставай катэгорыі да 14 год.

### ФУТБОЛ: ЕЎРАКУБКІ

Фіяска пацярпелі расійскія клубы ў розыгрышы Кубка *UEFA*. Толькі маскоўскі «Спартак» пасля перамогі дома — 3:2 і ў гасцях адолеў дацкі «Сількеборг» — 2:1. ЦСКА згуляў унічыю ў Ротэрдаме (Галандыя) з «Феєноардам» — 1:1, але паражэнне ў Маскве (0:1) выкрэсліла армейцаў з далейшай барацьбы. Такі ж удзел напаткаў «Тарпеда-Лужнікі». У сталіцы Грузіі масквічы ў прысутнасці 55 тысяч гледачоў выстаялі супраць тбіліскіх дынамаўцаў — 1:1, якія перамаглі ў гасцях — 1:0. Чэмпіён Расіі ўладзікаўказская «Аланія» была разгромленая ў Бруселі бельгійскім «Андэрлехтам» — 0:4 (першы матч — 2:1). Маскоўскія дынамаўцы, прайграўшы ў Рыме «Роме» — 0:3, бледна выглядалі і дома —1:3.

Згубіла сваіх прадстаўнікоў у Еўропе і Украіна. «Дынама» (Кіеў) саступіла ў гасцях швейцарскаму «Ксанаксу» — 1:2 (0:0), а «Чарнаморац» (Адэса) — румынскаму «Нацыяналю» — 0:2 (0:0).

Нарабіла шуму «Легія», якая адыграла два мячы ў Варшаве ў афінскага «Панафінаікаса» — 2:0 (2:4). Іншы польскі клуб — «Гутнік» (Кракаў) другі раз прайграў «Манака» — 1:3 (0:1).

Два суперклубы пакінулі турнір, толькі-толькі яго пачаўшы: «Баварыя» (Мюнхен) выйграла дома толькі 1:0, два тыдні таму прайграла «Валенсіі» 0:3. Уладальнік Кубка *UEFA* італьянская «Парма» саступіла ў Партугаліі «Віторыі» — 0:2 (2:1). Шведскі «Хельсінгборг», які ў папярэднім крузе выбіў нашае «Дынама-93», тое ж самае зрабіў з англійскай «Астан Вілай» — 1:0 (1:1). Знакамітая «Барселона» ледзь-ледзь дала рады кіпрскаму «Апаэлю» — 1:0 (2:2).

Паядынкі ў Лізе чэмпіёнаў скончыліся так:

*Група A:* «Аякс» (Галандыя) — «Грасхоперс» (Швейцарыя) 0:1; «Глазгоў Рэйнджэрс» (Шатландыя) — «Асэр» (Францыя) 1:2.

*Група B:* «Сцяўа» (Румынія) — «Барусія» (Дортмунд, Германія) 0:3; «Відзэў» (Польшча) — «Атлетыка» (Іспанія) 1:4.

*Група C:* «Манчэстэр Юнайтэд» (Англія) — «Рапід» (Аўстрыя) 2:0; «Фенербахчэ» (Турцыя) — «Ювентус» (Італія) 0:1.

*Група D:* «Русэнборг» (Нарвегія) — «Мілан» (Італія) 1:4 (Сімонэ — 3 мячы); «Порту» (Партугалія) — «Гётэборг» (Швецыя) 2:1.

Становішча пасля двух тураў:

*Група A:* **1.** *Грасхоперс — 6 ачкоў.* **2.** *Асэр — 3.* **3.** *Аякс — 3.* **4.** *Рэйнджэрс — 0.*

*Група B:* **1.** *Атлетыка — 6.* **2.** *Барусія — 6.* **3.** *Відзэў — 0.* **4.** *Сцяўа — 0.*

*Група C:* **1.** *Ювентус — 6.* **2.** *Манчэстэр — 3.* **3.** *Фенербахчэ — 1.* **4.** *Рапід — 1.*

*Група D:* **1.** *Порту — 6.* **2.** *Мілан — 3.* **3.** *Русэнборг — 3.* **4.** *Гётэборг — 0.*

### ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ: «93-IX» Б'ЮЦЬ...

Цэнтральны матч 23-га тура «Дынама» (Мінск) — «Дынама-93» прынёс нечаканы вынік. Тое, што лідэр атрымаў перамогу, нядзіўна, але лік 6:0 здзіўляе. Адзначыліся браты-блізняты Макоўскія: на рахунку Уладзіміра тры мячы, яшчэ адзін забіў Міхаіл. Астатнія вынікі такія: Нафтан-Дэвон (Наваполацк) — МВКЦ (Мазыр) — 0:3, Белшына (Бабруйск) — Атака-Аўра (Мінск) — 3:0, Абутнік (Ліда) — Лакаматыў-96 (Віцебск) — 2:0, Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) — Нёман (Гродна) — 2:1, Дынама (Брэст) — Тарпеда (Мінск) — 1:1, Ведрыч (Рэчыца) — ФК Маладзечна — 1:0, Шахцёр (Салігорск) — Днепр (Магілёў) — 0:1.

**Сямён ПЛОЦ**

# Смачней за ўсё – у Беларусі!

**Жыхарка Гомеля Галіна Пінчук заваявала дыплом лепшага кухара Еўропы. Гэтую ўзнагароду прысудзіла ёй журы алімпіяды, якая днямі праходзіла ў Берліне.**

Беларуская асацыяцыя «Кулінары Беларусі» дэлегавала ў нямецкую сталіцу трох лепшых майстроў, сярод іх была і Галіна Пінчук — кухар гомельскага рэстарана «Беларусь». Прыгатаваныя ёю 8 конкурсных страваў эксперты палічылі найсмачнейшымі. Галіна атрымала дыплом 1 ступені і запрашэнне на наступную сустрэчу «кухарскага бамонду», якая пройдзе ў 1997 годзе ў Бруселі.

**Мікалай ГРЫПІЧ**

# Палешукі не хочуць цыганоў

**Днямі каля вёскі Любель-Поль Пінскага раёна стаў цыганскі табар. Ён знаходзіўся там усяго суткі.**

Мясцовыя жыхары, забяспечыўшы «турыстаў» бульбай, малаком, яйкамі і мясам (вядома, за грошы) параілі ім ісці далей. Цыганы адмовіліся. Тады пінчукі звярнуліся ў міліцыю. Матыў: яны хвалююцца за сваю маёмасць, якую даводзіцца пакідаць без нагляду. Маўляў, цяпер час уборкі ўраджаю, і таму ўсе з раніцы да вечара знаходзяцца ў полі.

Міліцыя паслухалася палешукоў і прыняла адпаведныя меры — загадала цыганам выбірацца па-добраму. Табар (наперадзе машыны, за імі — кібіткі) рушыў далей...

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Беларусы загінулі, украінцам пашанцавала

**Два чалавекі загінулі, дашчэнту згарэлі аўтамабілі «Хонда» і МАЗ з прычэпам.**

Такі вынік аварыі, якая адбылася 22 верасня ў Пінскім раёне на шашы Кобрын—Гомель. Прычынай аўтамабільнай катастрофы стаў сапсаваны трактар, які загарадзіў дарогу. 31-гадовы вадзіцель легкавіка ўбачыў перашкоду ў самы апошні момант і выруліў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з МАЗам. Ад моцнага ўдару шафёр «Хонды» і ягоная пасажырка; 26-гадовая жыхарка Рэчыцы, вылецелі з машыны і загінулі. Бензінавы бак іншамаркі выбухнуў, пачаўся пажар. Шафёр і пасажыры МАЗа (абодва — грамадзяне Украіны) паспелі выскачыць з кабіны і толькі дзякуючы свайму спрыту выратаваліся. А 16 тон збожжа, якое яны везлі з Арлоўскай вобласці, згарэла поўнасцю.

**Анатоль МІРСКІ**

# Ураджайны дзень

**У Гомельскай вобласці ідзе актыўная бітва за ўраджай наркатычнага зелля.**

Толькі ў адзін дзень 20 верасня супрацоўнікі міліцыі затрымалі ў чатырох раёнах вобласці шэсць чалавек, звязаных з наркотыкамі. У прыватнасці, у Ельску 34-гадовы рабочы мясцовага саўгаса спрабаваў прадаць 3 кг 250 г макавай саломкі. А ў Жлобіне трох маладых мужчын арыштавалі разам з прыгатаваным з маку кілаграмам экстракту наркотыка. Панясуць адказнасць таксама жыхары Брагіна і Лоева, якія мелі пры сабе амаль па кілаграму макавай саломкі кожны.

**Мікалай ГРЫПІЧ**

# Пінскім маракам не хапае помнікаў

**Пінскі гарвыканкам прыняў рашэнне ўстанавіць у горадзе памятны знак з нагоды 300-годдзя расійскага флота.**

Гэтым самым ўлады задаволілі зварот мясцовай ветэранскай арганізацыі маракоў. Між тым сёння ў Пінску ўжо стаіць каля 10 помнікаў і мемарыяльных знакаў, прысвечаных флоту.

Пінскія маракі гэтым разам настойваюць устанавіць новы абеліск абавязкова ў гістарычнай частцы горада, якая ахоўваецца законам. На думку галоўнага архітэктара Пінска Вольгі Васіленка, якой дару́чана ажыццявіць гэты праект, у гэтым выпадку «варта выкарыстаць адзін з існуючых ужо марскіх помнікаў, на якім можна проста прымацаваць дошку з надпісам».

Архітэктар таксама сказала карэспандэнту СВАБОДЫ, што, каб нешта распачаць рабіць на гістарычным месцы, як гэта хочуць ветэраны флоту, трэба атрымаць дазвол міністэрства культуры. Але міністэрства такога дазволу пакуль не дало. Відаць, маракам давядзецца надзяваць цяльняшкі ды бесказыркі і браць старажытны «плацдарм» штурмам.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Трагічны феерверк

**Трагічны выпадак здарыўся 21 верасня ў Светлагорску.**

Падчас святочнага феерверку, які гарадскія ўлады наладзілі ў гонар 35-годдзя перайменавання вёскі Шацілкі ў горад Светлагорск, адна з ракет трапіла ў грудзі 16-гадовай Алы Біруковай, вучаніцы 11 класа СШ № 2. Ад цяжкога ранення дзяўчына памерла ў бальніцы. Яна была адзінай дачкой у маці.

Феерверк праводзіла мінская фірма «Ліор». Як кажуць сведкі, работнік гэтай фірмы замест таго, каб стрэліць угару, зрабіў стрэл у натоўп. Вогненны шар імкліва праляцеў пад рукой міліцыянера і трапіў у школьніцу, якая стаяла ззаду. Следства паказала, што «стралок» быў у нецвярозым стане.

Дарэчы, тыя ж сведкі адзначаюць, што святочнае шоў ператварылася ў сапраўдную масавую п'янку. На гэтае мерапрыемства з гарадскога бюджэту было выдаткавана 150 млн. рублёў. Цікава, што пасля свята мэр Светлагорска Аляксандр Якабсон раптоўна захварэў і пайшоў на бальнічны.

**Валодзя ЯНЧУК**

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод — 47.070)
Нумар падпісаны ў друк 26.09.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2616